*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 3 ліпеня 1987 г. № 27 (3385) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

Мінск. Плошча Перамогі. 3 ліпеня на ёй заўсёды людна.

Фота Ю. ІВАНОВА.

## Стратэгія перабудовы

Чэрвеньскі Пленум ЦК КПСС па-ленінску прынцыпова гранічна шчыра і крытычна ацаніў цяжкасці ў эканоміцы, з якімі давялося сутыкнуцца краіне на шляху перабудовы і, зыходзячы з рэальнага становішча спраў, вызначыў цвёрды курс руху наперад.

«Мы добра бачым, з якімі цяжкасцямі ідзе перабудова», — гэта сказана Міхаілам Сяргеевічам Гарбачовым на Пленуме не проста для канстатацыі,— а для таго, каб сказаць народу праўду, у тым ліку праўду і аб тым, што іншага шляху, акрамя ўдасканалення гаспадарчага механізму, карэннай перабудовы кіравання эканомікай, у нас няма. «Галоўнае пытанне ў тэорыі і практыцы сацыялізму,— гаворыцца ў дакладзе Палітбюро ЦК КПСС,— як на сацыялістычнай аснове стварыць больш магутныя, чым пры капіталізме, стымулы эканамічнага, навукова-тэхнічнага і сацыяльнага прагрэсу, як найбольш эфектыўна спалучыць планавае кіраўніцтва з інтарэсамі асобы і калектыву. Гэта самае складанае пытанне, адказ на якое шукала і шукае сацыялістычная думка і грамадская практыка. На цяперашнім этапе сацыялізму значэнне гэтага пытання непараўнальна ўзрастае».

Чалавек і грамадства, асоба і калектыў. Спалучэнне асабістых і грамадскіх інтарэсаў. Мы помнім час, калі пра такую гармонію—не дэкляраваную, а сапраўдную — можна было толькі марыць. Партыя сёння ставіць задачу весці пошук правільных суадносін грамадскіх і асабістых інтарэсаў. Маецца на ўвазе ўвесь комплекс інтарэсаў — асобы, калектыву, класаў, нацый, народнасцей, сацыяльных і прафесійных груп, складанай дыялектыкі іх узаемаадносін — з тым, каб забяспечыць дынамічнае развіццё грамадства.

Кожны з нас усведамляе, як арганічна ўваходзяць у наша жыццё словы галоснасць і дэмакратыя, як лёгка стала дыхаць у атмасферы творчасці, пошуку, рэалістычных ацэнак таго, што адбываецца, бескампраміснай барацьбы з усім, што нам перашкаджае.

І разам з тым, мы сутыкаемся з фактамі, якія сведчаць пра тое, што далёка не ўсім

(Заканчэнне на стар. 4).

# Ад Гомеля да Брэста, ад сэрца да сэрца




## ДНІ ЛІТАРАТУРЫ НА ПАЛЕССІ

Раніцай, 22 чэрвеня, на пачатку новага працоўнага тыдня, пісьменніцкі «рафік», які шмат пакалясіў і пабачыў, з нязменным Пятром Babло за рулём, адбыў ад Дома літаратара і ўзяў курс на паўднёвы ўсход, на Гомель. Група пісьменнікаў на чале з першым сакратаром праўлення СП БССР Нілам Гілевічам эдпраўлялася ў даволі вялікую дарогу, у шматдзённае падарожжа па палескім краі. А праз некалькі гадзін, на мяжы Гомельскага раёна, іх сустракалі хлебам-соллю і кветкамі прадстаўнікі горада і вобласці: пачыналіся Дні беларускай літаратуры на Палессі, прысвечаныя 70-годдзю Вялікага Кастрычніка...

Гомель, Рэчыца, Мазыр, Жыткавічы, Тураў, Пінск, Іванава, Моталь, Драгічын, Брэст, Белаазёрск... Хвалюючыя сустрэчы гаспадароў палескай зямлі і іх гасцей, чытачоў і літаратараў (у дэлегацыю ўваходзілі В. Казько, С. Законнікаў, А. Вярцінскі, У. Паўлаў, А. Пісьмянкоў, Б. Спрынчан і работнік Бюро прапаганды літаратуры СП БССР П. Ліпай). Дзелавыя, змястоўныя гутаркі, у якіх закраналіся самыя розныя пытанні нашага сённяшняга грамадска-палітычнага і культурнага жыцця, і вялікія літаратурныя вечары, на якіх і чыталіся творы, і ішоў дыялог залы з пісьменнікамі (Н. Гілевіч, адкрываючы вечары, заўсёды заклікаў да такога дыялога), і адбывалася ўзаемнае знаёмства, калі ішоў бойкі продаж кніг і даваліся аўтографы на ўспамін (у Мазыры вечар працягваўся каля... чатырох гадзін). Пытанні адных і адказы другіх (час перабудовы — час вострых пытанняў і чэсных, дзелавых адказаў). Гасцяванне, урачыстае, святочнае ўзрушэнне і ўзаемны клопат пра нашу агульную справу, праца думкі і душы, асэнсаванне ўбачанага, запісы ў блакноты (назіранні, геаграфічныя назвы, лічбы, прозвішчы). Надзвычай сіне-сонечнае, па выразу палешука Віктара Казько, палескае неба над галавой і густазялёныя разлівы азіміны і ярыны, бульбяных палеткаў і плантацый цукровых буракоў паабапал дарог. Пісьменнікі падзялялі гонар і радасць гаспадароў за свае дасягненні, радаваліся разам з імі новаму універмагу ў Гомелі (энтузіяст-дырэктар, максімальна прагрэсіўныя формы абслугоўвання), новаму Палацу культуры ў Рэчыцы (сапраўдны трохпавярховы палац), новаму кіламетроваму мосту цераз Прыпяць ля Турава («Яшчэ вунь будуецца бальніца, — гаварылі нам у Тураве,— дзякуючы дапамозе нашага дэпутата Васіля Уладзіміравіча Быкава»), «літаратурнай гасцінай» і фальклорна-этнаграфічнаму ансамблю «Суседкі» пры Мотальскім Доме культуры, добрым відам на ўраджай (у Жыткавічах якраз працаваў семінар вучоных і спецыялістаў па вывучэнні вопыту атрымання 100 цэнтнераў пшаніцы з гектара ў некаторых гаспадарках раёна). І ў той жа час яны не маглі не звярнуць увагу — па дарозе на Рэчыцу — на трывожнае папярэджанне «Збор грыбоў і ягад забаронены», не маглі не закранаць тэму Чарнобыля, такія праблемы, як меліярацыя, абвалаванне і дамбіраванне Прыпяці, стан народнай асветы і г. д. Словам, праблемы літаратуры тут жа цесна перапляталіся з праблемамі народнага жыцця.

Атрымалася так, што Дні літаратуры пачаліся ў балючы для кожнага з нас дзень — дзень пачатку мінулай вайны. І на сустрэчах чыталіся вершы, прысвечаныя памяці вайны, удзельнікі Дзён ускладалі кветкі да падножжа помнікаў.

Дні літаратуры прысвячаліся 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, і іх удзельнікі чыталі адпаведныя творы, гаварылі ў сваіх выступленнях аб тым, што перабудова — гэта якраз і ёсць Кастрычнік у дзеянні, прамы працяг ідэалаў і заваёў Кастрычніцкай рэвалюцыі.

Дні літаратуры супалі з днямі летняга сонцастаяння, а апошнія — з часам, калі ў Маскве працаваў Пленум ЦК КПСС, на разгляд якога было вынесена пытанне «Аб задачах партыі па карэннай перабудове кіравання эканомікай», і гэта не магло не адбіцца на характары сустрэч і размоў, на тых пытаннях, якія ўдзельнікі Дзён задавалі партыйным і савецкім кіраўнікам, старшыням калгасаў і дырэктарам прадпрыемстваў.

Па меры руху пісьменніцкага рэйду склад яго ўдзельнікаў пашыраўся за кошт мясцовых літаратараў. У Гомелі далучыліся М. Башлакоў, І. Сяркоў, В. Ярац, Н. Шклярава, Т. Мельчанка, у Рэчыцы — У. Верамейчык, на Брэстчыне — У. Калеснік і М. Пракаповіч. Зазначым, што ў час гутарак з партыйнымі кіраўнікамі і рэдактарамі газет, як правіла, закраналася пытанне аб далейшай актывізацыі літаратурнага жыцця ў абласцях і раёнах, аб рабоце літаратурных аб'яднанняў, аб падтрымцы пачынаючых паэтаў і празаікаў.

Як выглядалі Дні з арганізацыйнага боку? У цэлым нядрэнна. Саюз пісьменнікаў, у прыватнасці, яго Бюро прапаганды літаратуры сумесна з абласнымі камітэтамі КПБ правялі немалую падрыхтоўчую працу. Добры старт быў дадзены Дням у Гомелі — цёплай гутаркай у абкоме, якую вёў сакратар абкома КПБ С. П. Бабыр, увагай з боку гаркома і рэдакцыі «Гомельскай праўды». На жаль, такой увагі не было ў Брэсце, і фінал Дзён не атрымаўся такім, якім павінен быў быць — значнай, памятнай падзеяй у культурным жыцці горада.

Было і неафіцыйнае завяршэнне рэйду. Яго ўдзельнікі звярнулі з аўтастрады ў яшчэ адзін палескі гарадок, пасёлак энергетыкаў Белаазёрск (была нядзеля, і ён па-святочнаму адзначаў «Дзень горада»), і нанеслі візіт Ніне Мацяш. Ёй на гэты раз прыйшлося выступаць у якасці прадстаўніцы родных Нівак, роднага Белаазёрска, які, святкуючы свой дзень, не-не ды даваў знаць па тэлефоне, усё запрашаў Ніну на сустрэчу з белаазёрцамі. І гэтыя званкі, запрашэнне гэтае былі яшчэ адным штрыхом да Дзён літаратуры на Палессі, яшчэ адным наглядным доказам таго, як у краіне Кастрычніка адносяцца да пісьменніка, з якой цікавасцю і пашанай ставяцца да праўдзівага, натхнёнага мастакоўскага слова...

**НАШ КАР.**




Пісьменнікі на месцы, дзе была атрымана першая беларуская нафта.

## ГАВОРАЦЬ УДЗЕЛЬНІКІ ДЗЁН

### Ніл ГІЛЕВІЧ:

— Што настроіла нас на адпаведны лад ужо ў самым пачатку Дзён? Усхваляваны расказ сакратара абкома КПБ С. П. Бабыра пра мужнасць, пачуццё абавязку і свядомы подзвіг людзей Палесся ў складаных умовах ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай аварыі. Пра гэта помнілася ўсю дарогу.

Дні, праведзеныя на Палессі, пакінулі ў душы моцныя ўражанні і нарадзілі разнастайныя думкі. І таго і другога — багата, многае трэба належным чынам узважыць, асэнсаваць, таму абмяжуюся пакуль што самым галоўным.

На Палессі пануе добры працоўны настрой, у эканамічным і сацыяльным развіцці адчуваецца ўпэўнены поступ наперад. Людзі блізка да сэрца прынялі мэты і задачы перабудовы як працяг ажыццяўлення ідэй Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі.



Н. Гілевіч, сакратар Гомельскага абкома КПБ С. П. Бабыр, загадчык аддзела прапаганды і агітацыі абкома В. М. Кашавенка.

Жыхары Палесся любяць і ўмеюць працаваць — гэтым, бясспрэчна, і тлумачыцца відочная заможнасць краю, высокі ўзровень дабрабыту, прывабны выгляд — дзе ні праязджалі — калгасных і саўгасных палеткаў, дагледжанасць гарадоў, пасёлкаў і вёсак, размах новага будаўніцтва.

Радасна было бачыць на кіраўнічых пасадах людзей сучаснага ўзроўню мыслення, сучаснай інтэлектуальнай культуры і высокай прафесійнай кампетэнтнасці, хаця праблема кадраў яшчэ, вядома, не вырашана да канца. Слабасць пазіцыі многіх кіраўнікоў — недаацэнка імі духоўных, культурных, гуманітарных фактараў і аспектаў дзейнасці, несуразмерна малая — у параўнанні з вытворча-гаспадарчымі клопатамі — увага да душы чалавека, да таго, чым, якім дабром гэта душа запаўняецца.

Як цікавяцца беларускай літаратурай на беларускім Палессі? Адназначнага адказу тут, відаць, не дасі. Дзе больш цікавяцца, дзе — менш, дзе сапраўды чытаюць і ведаюць, а дзе — і не чытаюць і не ведаюць. У Мазыры на вечары было распрададзена бадай што каля двухсот маіх кніг — усе, якія знайшлі ў кнігарнях горада. На вечары ў Брэсце маглі б прадаць і больш — залу для сустрэчы адвялі нам вялізную, на 800 месц, але кніг купілі каля дзесятка, бо паслухаць і пагаварыць з пісьменнікамі прыйшло ўсяго 100 чалавек.

Сумна і горка было бачыць, што некаторым кіраўнічым таварышам (рознага рангу — ад гаркома да калгаса) беларуская літаратура, асабліва творчасць сучасных пісьменнікаў, вядома хіба што па чутках: ніводнай іх кніжкі ў руках яны не трымалі, ды і чытаць па-беларуску або развучыліся, або і не думалі навучыцца. Больш таго: уся нацыянальная мастацкая культура для іх існуе як нейкі экзатычна-этнаграфічны даважак. Пра якую ж яе вялікую выхаваўчую ролю можна тут гаварыць!

Самае светлае і радаснае ўражанне на мяне асабіста зрабіла паездка ў вёску Моталь Іванаўскага раёна, дзе старшынёй калгаса працуе ўжо чатырнаццаць гадоў Уладзімір Іванавіч Балюк. Знаёмства з гаспадаркай і з людзьмі, з іх жыццём і справамі пераканалі мяне, што там існуе рэальнае гарманічнае адзінства клопатаў пра вытворчыя поспехі (а яны выдатныя!) і пра духоўны свет чалавека, пра тое, каб жыццё і праца былі для яго радасцю. Моталь і У. І. Балюк — тэма асобнай вялікай гаворкі, тут жа зазначу толькі, што вучыцца будаваць прыгожы лад на роднай зямлі трэба ўсё ж не ў аднабакова энергічных гаспадарнікаў, а ў таго, хто ні на хвіліну не забывае, што не хлебам адзіным жыве чалавек, хто кіруецца вышэйшай мудрасцю гаспадарання: нашчадкам трэба перадаць у спадчыну і плён працы, і незнявечаную прыгажосць бацькоўскага краю, і дзівосныя скарбы душы народнай. Хто разумее: калі паперадзе Плуга не ідзе Песня, Мара, Запавет — якія б ні былі поспехі на полі,— яны не самыя трывалыя і, значыць, часовыя. Таму і героем нашых твораў пра вёску сёння мае права быць перш за ўсё вось такі глыбока свядомы патрыёт Бацькаўшчыны, сапраўды культурны Земляроб, Сейбіт і Жнец, добры і мудры Чалавек-Творца.

### Сяргей ЗАКОННІКАЎ:

— За час падарожжа па Палессі было столькі цікавых радасных сустрэч, знаёмстваў, столькі сур'ёзных і шчырых размоў па самых розных праблемах, што адразу ўсё гэта асэнсаваць вельмі цяжка. Адно скажу: тое, што ўбачыў, пачуў, зразумеў, да чаго дакрануўся сэрцам, павінна ўзнавіцца на паперы. Высокая паэзія, якая шчодра разліта ў непаўторных краявідах палескага краю, у душах яго працавітых, мудрых і гасцінных людзей, проста не можа не перайсці ў радкі ўдзячнасці і пашаны.

Штуршок гэтаму далі нафтавікі, якія расказвалі нам пра свае клопаты, цяжкасці, пра нялёгкі, але надзвычай змястоўны будзень: высаджаныя ласкавымі рукамі дзесяткі тысяч ружаў, у якіх купаецца, плыве пад сонцам Рэчыца; зацікаўлены дыялог пра жыццё, літаратуру, мову на вялікіх літаратурных вечарах у Гомелі, Мазыры, Жыткавічах, у калгасе імя М. Горкага Пінскага раёна; гутаркі з партыйнымі, савецкімі і гаспадарчымі кіраўнікамі гарадоў і раёнаў, якія паказалі,

што ў нас ёсць шмат таленавітых, высокаадукаваных, апантаных сваёй справай працаўнікоў, якім па плячы сённяшнія задачы.

З асаблівым пачуццём гордасці за нашых сучаснікаў знаёмлюся з калгасам «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна.


Выступае У. Верамейчык.


Б. Спрынчан чытае верш аб Прыпяці.

Выдатна, што сама вёска Моталь мае трывалую аснову для таго, каб чалавеку тут жылося не толькі зручна, утульна, але і культурна, аб чым сведчыла выступленне самадзейных артыстаў, якое ўзрушыла выключным майстэрствам, глыбіннай народнасцю. Нават такія, магчыма, для некага і нязначныя дэталі, як калодзежы, альтанкі і скверыкі на скрыжаваннях палявых дарог, дзе ў спёку можна папіць чыстай сцюдзёнай вады, хвілінку адпачыць у час рабочага дня, гавораць аб многім. Адчуваецца, што людзі любяць родную зямлю, ганарацца сваёй працай, багатымі традыцыямі. Вялікая заслуга ў гэтым Уладзіміра Іванавіча Балюка — таленавітага кіраўніка, якога разумее, паважае і падтрымлівае ва ўсіх карысных пачынаннях калгасная грамада.

Скончыўся час тых, хто прывык хавацца за прыгожую фразу, пускаць пыл у вочы, займацца марнатраўствам, прыпіскамі, хто стараўся сапраўдныя справы замяніць парадным аптымізмам. І ўсё ж шкада, што яшчэ дасюль часам паспешна прымаюцца неабгрунтаваныя рашэнні, а добрыя ініцыятывы кіраўнікоў, спецыялістаў і радавых працаўнікоў часта скоўваюцца састарэлымі інструкцыямі, нарматывамі.

Тым большую павагу выклікаюць тыя людзі, якія не мірацца з недахопамі, працуюць з новай мерай дзяржаўнай адказнасці, адносяцца да ўсяго сумленна, прынцыпова, з павышанай душэўнай справядлівасцю.

І мы, літаратары, павінны выйсці на прамую сувязь з жыццём, падставіць сваё плячо пад агульнанародную ношу.

самой справы. Прызямленага, але, як ні дзіўна, узнёслага. Бо гэта адначасова і для чалавека, і для дзяржавы. Таму і гаворка ўсюды была шчырая, і не толькі пра поспехі, але і пра недахопы, аб праблемах сённяшняга дня з перспектывай, з праекцыяй яго на дзень заўтрашні.

Дэталь, якую я прывяду, сцвярджаючы гэтую думку, мо каму падасца нязначнай і чыста пісьменніцкай, наіўнай. Але мне, як палешуку, яна гаворыць шмат аб чым. Два гарады на нашай трасе: Рэчыца і Мазыр. Гарады недзе і ў нечым сапернікі. І ў абодвух амаль што адначасова гарадскія ўлады пачынаюць разводзіць і высаджваць ружы. Клапоцяцца аб ружах пры наяўнасці клопату куды больш надзённага і значнага: гарады ж і прамысловыя і сельскагаспадарчыя, старажытныя, але ў той жа час і маладыя, новыя, і абодва растуць так, што ў кіраўнікоў косці трашчаць, нараджаюцца новыя прадпрыемствы, нават новыя галіны прамысловасці, новыя гаспадаркі. Усім зразумела, што гэта значыць: план, вал, здабыча, надоі, прывагі, будаўніцтва, нарыхтоўка і г.д. А тут — ружы! У Рэчыцы 50 тысяч кустоў сёння, а заўтра — на кожнага жыхара па кусту, гэта значыць, сто тысяч кустоў. Такая ж мэта і ў мазыран. А жыхары і самі ў разгубленасці. Старая наша звычка: што ёсць у суседа, тое павінна быць і ў мяне, што расце ў гарадскім скверы, павінна расці і ў маім гародчыку, на маёй дачы.

— Хай будзе так, хай расце і ў жыхароў, — аднагалосна згодны кіраўнікі і Рэчыцы, і Мазыра.

— Жаданне працаваць ёсць сёння ў кожнага, — як бы падвёў вынікі нашай паездкі і нашых уражанняў першы сакратар Мазырскага гаркома партыі Валерый Сцяпанавіч Сялецкі. І дадаў: — Але гэтаму жаданню яшчэ патрэбны розум і інтэлект.

Дык вось, жаданне такога інтэлекту у кожнай справе мы і адчулі, едучы на сваім пісьменніцкім пегасе-рафіку па Палессі. Адчулі ў гаворцы з першым сакратаром Жыткавіцкага райкома партыі Уладзімірам Сяргеевічам Герасімавым, сакратаром райкома Людмілай Фёдараўнай Козел, старшынёй райвыканкома Аляксеем Мікалаевічам Сцепаненкам, старшынёй Тураўскага пасялковага Савета Лідзіяй Фядотаўнай Прыбалавец, дырэктарам рыбгаса «Белае» Дзмітрыем Рыгоравічам Сергіенка, адчулі гэта і ў Пінску, і ў Моталі на Брэстчыне. Сапраўдны клопат пра свой родны беларускі край. І, на маю думку, новае ў гэтым клопаце: беражлівасць, ашчаднасць да прыроды і роднай зямлі, цвярозасць падыходу, гістарычная і экалагічная адукаванасць, і... розум, розум, розум. І яшчэ — маладосць кіраўнікоў, маладосць іх думак і надзей у спалучэнні з падрыхтаванасцю да таго часу, у якім яны жывуць. А іх надзеі — на кожнага, з кім ідуць поплеч, у тым ліку і на нас, пісьменнікаў, надзеі, якія мы павінны апраўдваць, каб гісторыя наша мела працяг.

## Віктар КАЗЬКО:

— Дзве тысячы кіламетраў на «рафіку» па Палессі на працягу шасці дзён. Гэта і так ужо само па сабе нямала. Але атрымаецца куды больш, калі ў гэтыя кіламетры ўключыць яшчэ і сустрэчы ў абкоме, гаркомах, райкомах, на прадпрыемствах, у гаспадарках, гаворкі, выступленні ў вясковых клубах, палацах культуры, знаёмства са славутымі мясцінамі краю. Раней звычайна адразу ж пасля такой гонкі адчуванне толькі суму, спешкі, а здаралася, і горычы. Там не дабыў, тут не даслухаў, не дагаварыў, убачыў толькі на паўвока. І ўсведамленне таго, дзе быў, з чым пазнаёміўся, прыходзіла як у запаволеным кіно, значна пазней, з цягам часу. А тут жа яшчэ не абтрэсены пыл з ног, але ёсць пра што ўспомніць і пра што гаварыць.

Галоўнае для мяне ў гэтай паездцы тое, што я, здаецца, адчуў сам час, у якім мы жывём, яго рух, яго непаўторнасць і матэрыяльнасць. Час на самай справе вялікіх перамен, перамен зусім не тых, да якіх мы прывыклі: тут узведзена, перайначана, палепшана, перабудавана, у працэнтах, рублях і гектарах, што можна ўбачыць на свае вочы, памацаць, прыхапіць на памяць, як сувенір. Перамены гэтыя зусім у іншым, яны ў свядомасці тых людзей, з якімі мы сустракаліся, у з'яўленні на справе новага мыслення і новага, можа, на першы погляд больш прызямленага, але і больш паглыбленага, дзяржаўнага падыходу да


В. Казько гутарыць са сваімі землякамі — прадаўцом Л. Галавачовай і загадчыцай мазырскай кнігарні К. Артамонавай.

## Уладзімір ПАЎЛАЎ:

— З жэрла танкавай гарматы на помніку ў Рэчыцы, горадзе ружаў, вызіраў і круціў галавой верабей. У небе вакол стометровага штыка ў Брэсцкай крэпасці-героі кружылі галубы. Уся траса ўяўлялася муаравай стужкай баявога ордэна: помнік у пачатку маршрута, помнік у яго канцы. І скрозь — у гарадах і паселішчах — помнікі слаўнай доблесці воінаў і партызан, усяго народа, які змагаўся. У двары музея ў Пінску стаіць на пастаменце жалезнаколавы трактар ХТЗ з заводскім нумарам 1126. У пачатку вайны яго разабралі і схавалі калгаснікі Столінскага раёна. Пасля гітлераўскага нашэсця сабралі. Ён стаў першым пасляваенным трактарам, флагманам у тых мясцінах; доўга і бездакорна працаваў. За гэта яго празвалі «капітанам». Трактар займеў уласнае імя.

Тысячы і тысячы «капітанаў» рознай моцы сёння на Палессі. І не толькі трактароў, караблёў, рознай іншай тэхнікі. Флагманы сённяшняга дня — гэта і буравая, якая ўяўляе немалы завод, і камбінат «Рэчыцадрэў», і калгас «40 год Кастрычніка» ў Моталі Іванаўскага раёна. А найбольш, — надаючы слову адухоўленасць, — людзей-капітанаў. Яны ўсім гэтым кіруюць. У большасці гэта людзі маладога веку, несумненна добра падрыхтаваныя тэарэтычна, няўрымслівыя і дасведчаныя практыкі. Людзі на сваім месцы, якія ведаюць справу і хораша робяць яе, людзі аптымізму. Хіба не яны патрэбны перабудове?! Назаву трох з ўсіх, хто зрабіў на мяне найбольшае ўражанне. Гэта (згодна маршруту) першы сакратар Мазырскага гаркома партыі Сялецкі Валерый Сцяпанавіч, дырэктар рыбгаса «Белае» ў Жыткавіцкім раёне Дзмітрый Рыгоравіч Сергіенка, старшыня калгаса «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна Балюк Уладзімір Іванавіч.

Наш маршрут быў выбраны спецыяльна па Палессі. Не дзе-небудзь у іншым месцы Беларусі, а менавіта на Палессі, краі, што прыняў дзве трэці Чарнобыльскай бяды. Усюды мы пыталі пра яе, пачынаючы з Гомельскага абкома партыі, дзе нас прыняў сакратар абкома Сяргей Пятровіч Бабыр. Гэта ён у па-ваеннаму напружаныя дні вясны мінулага года кіраваў эвакуацыяй з трыццацікіламетровай зоны. У той зоне спынілі існаванне дзевятнаццаць гаспадарак. Скрозь па трасе былі выбудаваны белакаменныя пасёлкі для іх жыхароў.

Калі Амазонію называюць лёгкімі планеты, то Палессе многія называюць лёгкімі Еўропы. Клопат наш агульны, каб яны былі чыстымі.

Рэгіён Палесся — своеасаблівы край. Розныя мясціны яго падобныя і ў той жа час непадобныя, як строі ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці, што сустракалі нас і шчодра знаёмілі са сваім майстэрствам, як адметная паляшуцкая мова ў розных яго кутках.

Палессе — край напружанай працы, якая ўражвае сваімі набыткамі, хоць, як казалі, набыткі гэтыя — толькі добры пачатак набыткаў будучых. Палессе — край займальных перспектыў і разам з тым многіх складаных і нявырашаных пытанняў, а сярод іх найперш пытанняў, звязаных з меліярацыяй.

Палессе — перад усім астатнім! — край цудоўных людзей. У птушына-песенным краі, якім з'яўляецца Палессе, любяць буслоў. Мы іх бачылі ўсюды. У Прыпяцкім запаведніку многа чорных буслоў. У вёсках калгаса імя Горкага Пінскага раёна, якім кіруе Герой Сацыялістычнай Працы Васіль Майсеевіч Гарошка, беларуская птушка бацян гняздуецца на саламяных стрэхах і на шыферных дахах. Каля калгаснага клуба ў вёсцы Плешчыцы спілавалі адну ралю магутнага дрэва, і там пасяліўся бусел. У старажытным Тураве на будынку гарпасялковага Савета, якім энергічна кіруе Лідзія Фядотаўна Прыбалавец, насуперак некаторым перашкодам склаў буслянку чорна-белы прыгажун. У адным з адмысловых пакояў сельскага Савета бяруць шлюб маладыя пары, а па наваколлі ляцяць жыццядайны буслінны клёкат...

**(Заканчэнне на стар. 4).**


Лідзія Фядотаўна Прыбалавец, «гаспадыня Турава», старшыня пасялковага Савета.


Старшыня калгаса «Новае жыццё» Жыткавіцкага раёна М. М. Арцюшка і С. Законнікаў.


Першы сакратар Мазырскага гаркома КПБ В. С. Сялецкі.


Сустрэча на мяжы Пінскага раёна.

# Ад Гомеля да Брэста, ад сэрца да сэрца

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 2—3).

**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ:**

— Я адкрыў для сябе Палессе. Упершыню ўбачыў выразна яго своеасаблівы твар. І як заўсёды бывае пасля адкрыцця, трохі разгублены і ашаломлены.

Вельмі багата ўражанняў. Яны яшчэ як след не адстаяліся і таму цяжка вылучыць нешта адно. Яшчэ стаяць перад вачыма буравыя вышкі Рэчыцы, велічная Прыпяць, маляўніча-непаўторны Мазыр, старажытны Тураў... Яшчэ са мной сакавітая мова палешукоў, іх шчырыя і шчымлівыя песні, дасціпны гумар знаходлівых аўцюкоў і руплівых мотальцаў.

Як ні дзіўна, мы яшчэ слаба ведаем свой край, яго гісторыю, недаацэньваем сваіх людзей. Мужных, працавітых, шчырых. Ва ўмовах перабудовы сфарміраваўся новы тып кіраўнікоў, рабочых, інтэлігентаў. У тым, што мы патрэбны ім, а найперш — яны нам, мы пераконваліся скрозь. У мазырскім Палацы культуры літаральна недзе было ўпасці яблыку — столькі тут сабралася жадаючых паслухаць паэзію, пачуць адказы на набалелыя пытанні.

Выснова адна — нам трэба часцей сустракацца з людзьмі. Гаварыць з імі. Вучыцца ў іх. Раіцца. Карысць ад гэтага будзе ўзаемная.

На жаль, у такіх буйных гарадах, як Рэчыца, Мазыр, Пінск, слаба наладжана культурнае жыццё: адсутнічае літаратурнае асяроддзе, па сёння няма прафесійных тэатраў. Давялося пажурыцца і ў старажытным Тураве. Яго не пашкадаваў бязлітасны час і наша абыякавасць, раўнадушша. Ад славутага мінулага ў тураўцаў засталася хіба што мянушка: «Тураўскія князі» — так іх называюць у наваколлі за высокае пачуццё ўласнай годнасці.

Так, слаўныя людзі жывуць на беларускім Палессі. Непаўторная і велічная яго прырода.

Зберагчы б яе!



Старшыня калгаса імя Горкага Пінскага раёна В. М. Гарошка, М. Пракаповіч і А. Пісьмянкоў.

**Браніслаў СПРЫНЧАН:**

— ...А там, где Рокоссовский
вел солдат,
Так молодо расправил плечи
Мозырь,
У Припяти подняв,
как главный козырь,
Свой нефтеперегонный
комбинат...

За апошнія гады прыкметна разрося, папрыгажэў і памаладзеў гэты горад, стаў сапраўдным цэнтрам эканамічнага і духоўнага жыцця мазырскага Палесся. Плаўныя выгібы паўнаводнай Прыпяці, крутыя ўзгоркі і глыбокія яры, сучасныя архітэктурныя ансамблі і аднапавярховыя драўляныя домікі, што патанаюць у зеляніне, ствараюць непаўторнае аблічча Мазыра. Трыццаць гадоў назад я назаўсёды палюбіў гэты старадаўні горад.

Крыху іншыя пачуцці выклікае выгляд старадаўняга Турава, былой сталіцы Тураўскага княства, якое распасціралася, з усходу на захад, ад Мазыра да Бярэсця, а на поўнач — да Рагачова, Слуцка і Клецка. Цяпер Тураў — звычайны гарадскі пасёлак. А ўжо ў XII стагоддзі ён быў не толькі буйным эканамічным, а і культурным цэнтрам. У ім жыў і тварыў выдатны пісьменнік старажытнарускай літаратуры Кірыла Тураўскі. Паказальна тое, што высокую адукацыю Тураўскі атрымаў не дзе-небудзь, а ў родным Тураве. Добра было б у нейкай меры ўвекавечыць былую славу старажытнага Турава, захаваць для нашчадкаў яго гарадзішча, адкрыць помнік Кірылу Тураўскаму.



Дырэктар рыбгаса «Белае» Д. Р. Сергіенка.



Н. Мацяш адказвае на тэлефонны званок.



Знаёмства з вёскай Моталь

Роўная дарога, як страла, ляціць праз Палессе. На месцы былых балот раскінуліся бязмежныя палі, на якіх наліваюць буйны колас пшаніца, жыта, ячмень. Прайшлі моцныя ліўні, там-сям з градам, і ў зялёных масівах утварыліся прагалы палеглага калосся. І ўсё ж хлебаробы Тураўшчыны і Піншчыны спадзяюцца вырасціць высокі ўраджай.

Асабліва радуюць шырокія нівы і плантацыі цукровых буракоў у калгасе «40 год Кастрычніка» Іванаўскага раёна. Кіруе гэтай багатай, квітнеючай гаспадаркай таленавіты, прадпрымальны і энергічны чалавек — Уладзімір Іванавіч Балюк. У шырокае кола яго інтарэсаў уваходзяць разам з вытворчымі клопатамі і клопаты аб развіцці духоўнай культуры сяла Моталь. Добра вядомы на Палессі і далёка за яго межамі мотальскі фальклорна-этнаграфічны ансамбль і мотальскія вышывальшчыцы. Вышытыя імі ручнікі — самабытныя творы народнага мастацтва. Радуе і тое, што да творчасці тут, у школе мастацтваў, далучаюцца і дзеці. Я не магу адарваць вачэй ад сувеніра: на авальным бярозавым зрэзе — залатая кветка з саломы. А на адваротным баку тонкай вяззю выпалена імя аўтара — Стасевіч Света. 10 гадоў. Гэтая незнаёмая мне Света і яе рукатворная кветачка надаюць мне веры ў наш заўтрашні дзень.

# Памнажаючы духоўнае багацце народа

**Крыху больш за паўгода існуе Савецкі фонд культуры, але ўжо цяпер можна гаварыць аб першых станоўчых выніках яго работы. Іх падвялі 1 ліпеня ў Маскве ўдзельнікі пасяджэння праўлення гэтай грамадскай арганізацыі.**

**Значны ўклад у памнажэнне духоўных скарбаў народа, павышэнне яго культурнага патэнцыялу ўносіць фонд, які абапіраецца на шырокі ўдзел розных творчых арганізацый нашай краіны, відных грамадскіх дзеячаў.**

**На пасяджэнні прэзідыума Савецкага фонду культуры было зачытана пісьмо Генеральнага сакратара ЦК КПСС:**

**«Дарагія таварышы!**

**Гэтым пісьмом паведамляю вам, што мною на рахунак Савецкага фонду культуры пераведзены 50 тысяч рублёў з ганарарных сродкаў, якія былі атрыманы за выдадзеныя за мяжой кнігі.**

**Хацеў бы прасіць вас выкарыстаць гэтыя сродкі пры ўзвядзенні на гераічнай смаленскай зямлі помніка Васілію Цёркіну, які ўвекавечвае подзвіг савецкага салдата ў Вялікай Айчыннай вайне і з'яўляецца сімвалам глыбокай павагі нашага народа праслаўленаму паэту і яго літаратурнаму герою.**

**З найлепшымі пажаданнямі. М. Гарбачоў».**

**Гарачымі апладысментамі прысутныя выказалі шчырую ўдзячнасць за падтрымку дзейнасці Савецкага фонду культуры.**

**У рэалізацыю асноўных напрамкаў работы ўключыліся аддзяленні Савецкага фонду культуры, створаныя ва ўсіх саюзных рэспубліках, Ленінградзе і Маскве.**

**У сваёй рабоце фонд шырока абапіраецца на высакародную дзейнасць энтузіястаў. Аднак, адзначалася ў дакладзе старшыні праўлення Савецкага фонду культуры Д. Ліхачова, у выступленнях іншых удзельнікаў пасяджэння, пакуль яшчэ марудна складваецца актыў фонду. Слабыя кантакты з працоўнымі калектывамі. Дагэтуль не ўстаноўлены дзелавыя сувязі з таварыствамі аховы помнікаў гісторыі і культуры, аматараў кніг, аховы прыроды. Нямала пытанняў узнікае ў сувязі са стварэннем вытворчай базы фонду, без чага немагчыма самафінансаванне гэтай грамадскай арганізацыі.**

**Кар. ТАСС.**

# Стратэгія перабудовы

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

падабаецца працэс дэмакратызацыі. Рэальнае супрацьстаянне: з аднаго боку, актыўнасць мас, якія прагнуць перабудовы, з другога, — па-ранейшаму бюракратычны стыль дзейнасці ў самых розных галінах, спробы замарозіць перабудову.

«Савецкія людзі разумеюць, што дасягненне многіх мэт перабудовы запатрабуе працяглага часу, — гаворыцца ў дакладзе М. С. Гарбачова,— але яны справядліва ставяць пытанне: а чаму сёння не вырашаюцца неадкладныя і адносна простыя задачы, якія істотна палепшылі б умовы працы, жыцця, быту, аздаравілі маральна-духоўную атмасферу?»

Сапраўды, хіба не наша агульная віна, што сям-там ідзе адступленне ад заваяваных нядаўна пазіцый? Зноў жа назіраюцца факты п'янства, па-ранейшаму вольна сябе адчуваюць дармаеды, несуны — людзі, якія жывуць за кошт іншых. Сумленныя людзі гэтым вельмі занепакоены, занепакоены тым, што мала пакуль парадку ў гандлі, у сферы паслуг, у ахове здароўя, у камунальнай гаспадарцы,— тых звеннях эканомікі, якія непасрэдна звязаны з паўсядзённым жыццём людзей.

У дакументах Пленума звяртаецца ўвага і на такую акалічнасць: сёй-той робіць спробу выкарыстаць дэмакратыю, галоснасць не ў інтарэсах грамадства, не ў інтарэсах перабудовы, а ў інтарэсах асабістых, эгаістычных. З такімі з'явамі трэба змагацца, але змагацца адкрыта, галосна. Жыць і працаваць ва ўмовах галоснасці, дэмакратыі — значыць, шырока дыскуціраваць, не баяцца сутыкнення думак і пазіцый. Усё гэта неабходна ў пошуках ісціны, для вырашэння надзённых праблем.

Разам з тым, падкрэсліваецца ў дакументах Пленума, нельга, каб пад выглядам барацьбы з адной паўпраўдай, з амбіцыямі адной групы, яе прэтэнзіямі на ісціну «ў апошняй інстанцыі» навязвалася амбіцыя другой групы, яе суб'ектывісцкія пункты гледжання. З гэтым даводзіцца сутыкацца і ў сродках масавай інфармацыі, у мастацтве і ў літаратуры, у навуковых колах. Не абышла гэтая з'ява і партыйныя, грамадскія арганізацыі.

Глядзець праўдзе ў вочы, не прымаць жаданае за сапраўднае, не ствараць ілюзій, а цвяроза, рашуча, смела браць на сябе адказнасць за грамадскія справы, вось імператывы сённяшняга часу. Калі мы гаворым пра мінулыя дваццаць гадоў застою, дык часам забываем, што гэта быў застой не толькі ў эканоміцы, а і ў грамадскай свядомасці, як адлюстраванне адпаведных з'яў жыцця і перш за ўсё адрыву слова ад справы. Пераадолець учарашнія стэрэатыпы мыслення вельмі няпроста, але іншага шляху няма — трэба пераадольваць.

Так, чалавека вучыць жыццё. Але ж жыццё яго і перавучвае. І не толькі жыццё. Літаратура, кіно, тэатр, выяўленчае мастацтва, якое ў іх сённяя вялізнае поле дзейнасці! «Нам няма чаго баяцца навізны праблем, новых адкрыццяў, новых падыходаў у ідэйна-палітычным працэсе,— сказаў на Пленуме М. С. Гарбачоў.— У нас хопіць розуму, сіл і ўмення, каб па-ленінску весці работу ва ўмовах перабудовы, не прыходзячы ў захапленне ад кожнага яе поспеху, але не ўпадаючы ў роспач, тым больш у паніку, калі знаходзяцца нейкія негатыўныя з'явы. Трэба вучыцца складанаму, дыялектычна супярэчліваму майстэрству перабудовы».

Адкрытасць і рэалізм — у кожным радку дакументаў Пленума. Так, жыццё складанае, краіну чакаюць новыя праблемы, ніхто не застрахаваны ад памылак. Ды баяцца памылак — гэта значыць сядзець, склаўшы рукі, у цішы кабінета, нічога не робячы, чакаючы, пакуль за цябе іншыя пройдуць самую складаную частку шляху.

Буйнейшая палітычная падзея ў жыцці партыі і краіны — XIX партыйная канферэнцыя, якая адбудзецца ў будучым годзе. «Для нас, камуністаў,— сказаў у заключным слове М. С. Гарбачоў,— яна стане, па сутнасці, палітычным экзаменам па галоўным прадмеце нашага жыцця — перабудове».

«Перабудова эканамічнага кіравання, гаспадарчага механізму ў цэлым з'яўляецца цяпер цэнтральнай задачай, якая вызначае поспех усёй стратэгіі паскарэння, — гаворыцца ў пастанове Пленума ЦК КПСС. — Яе ажыццяўленне — важнейшая агульнапартыйная, агульнанародная справа, неад'емная састаўная частка працэсу абнаўлення ўсяго жыцця краіны, прамое прадаўжэнне справы Кастрычніка».

Прымем гэтыя словы, як праграму дзейнасці, як праграму жыцця!

# КУПАЛЫ НЕЎМІРУЧЫ СВЕТ

**Стала традыцыяй, што кожны год настаўнікі беларускай мовы і літаратуры г. Мінска збіраюцца ў Літаратурным музеі Янкі Купалы на свае нарады і семінары, каб яшчэ раз дакрануцца да слова песняра. Сёлета навукова-практычная канферэнцыя «Ідэйна-маральнае выхаванне вучняў пры вывучэнні творчасці Янкі Купалы» прысвячалася 105-й гадавіне з дня нараджэння паэта.**

**«Творчасць Янкі Купалы — жыватворная крыніца камуністычнага выхавання школьнікаў у святле рашэнняў XXVII з'езда КПСС» — тэма даклада загадчыцы кабінета беларускай мовы і літаратуры Мінскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў В. Раманцэвіч. Настаўніца-метадыст СШ № 124 В. Войцік, заслужаная настаўніца БССР Н. Гірсёнак, настаўнікі М. Ціхановіч, В. Шалькевіч, М. Малочка і іншыя гаварылі аб выхаванні ў дзяцей любові да роднай мовы, аб маральна-этычным выхаванні школьнікаў пры вывучэнні паэм «Бандароўна» і «Тарасова доля», аб інтэрнацыянальным выхаванні на прыкладзе твораў Я. Купалы, прысвечаных тэме дружбы савецкіх народаў.**

**Алег Лойка расказаў аб сваёй працы над кнігай «Янка Купала».**

**Загадчыца навукова-метадычнага сектара Аб'яднанай дырэкцыі дзяржаўных літаратурных музеяў г. Мінска Н. Цвірка пазнаёміла прысутных з новымі матэрыяламі аб знаходжанні Янкі Купалы ў Грузіі.**

**На канферэнцыі выступілі таксама супрацоўнікі музея Ф. Ваданосава, Я. Раманоўская.**

**У выкананні вучняў СШ № 108 прагучала літаратурная кампазіцыя «Грай, мая жалейка» па творах Я. Купалы і беларускія народныя песні ў выкананні дзіцячага хору «Ветрык» СШ № 150, якая змагаецца за права насіць імя Р. Шырмы.**

**Л. ЗАГОР'ЕВА.**

## КНІГАПІС




Л. ДРОБАЎ. Вялікая Айчынная вайна ў творах беларускага жывапісу. На рускай мове. Мінск, «Навука і тэхніка», 1987.

**Тэма Вялікай Айчыннай вайны ў беларускім мастацтве займае адметнае месца. Над адлюстраваннем мужнасці народа ў барацьбе з фашысцкімі захопнікамі, выкрыццём зверстваў захопнікаў мастакі пачалі працаваць яшчэ ў час суровых выпрабаванняў. Аднак найбольшага поспеху яны дасягнулі тады, калі падзеі гэтыя сталі асэнсоўваць з вышыні пройдзеных гадоў, надаючы тэме філасофскае гучанне.**

**Мастацтвазнавец Леанід Дробаў у брашуры «Вялікая Айчынная вайна ў творах беларускага жывапісу» і звяртае ўвагу на гэтыя аспекты, падрабязна разглядаючы найбольш значныя палотны, напісаныя ў розныя гады. Падрабязна гаворыцца пра адметнасць творчасці такіх вядомых прадстаўнікоў беларускага жывапісу, як М. Савіцкі, Я. Зайцаў, А. Шыбнёў, В. Грамыка, Г. Вашчанка, Л. Шчамялёў і інш.**

**Чытач пазнаёміцца таксама з чорна-белымі рэпрадукцыямі работ «На партызанскім аэрадроме» П. Гаўрыленкі, «Віцебскія вароты», «Партызанская мадонна», «Пакаранне» М. Савіцкага, «Над Прыпяццю» В. Грамыкі — усяго змешчана семнаццаць ілюстрацый.**

ЗОРЫ СЕВАНА. Вершы, апавяданні, казкі. Пераклады з армянскай. Мінск, «Юнацтва», 1987.

**«Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР» папоўнілася чарговым, восьмым томам. У зборніку «Зоры Севана» змешчаны лепшыя ўзоры армянскага фальклору і літаратуры для дзяцей, створаныя армянскімі пісьменнікамі ад Мхітара Гота (XII стагоддзе) да нашых сучаснікаў.**

**У прадмове да кнігі доктар філалагічных навук Х. Гюльназаран піша: «У армян вельмі багатая культура, а літаратура — адна з самых старажытных літаратур Савецкага Саюза. Першыя пісьмовыя помнікі на армянскай мове вядомыя з V стагоддзя... Чытачы знойдуць ў гэтай кнізе ўзоры старажытнай армянскай дзіцячай літаратуры, якія з любоўю пераклаў на беларускую мову народны паэт Беларусі Максім Танк».**

**Ужо ў старажытнай Арменіі ствараліся мастацкія творы спецыяльна для дзяцей. Аднак дзіцячая літаратура ў сучасным разуменні ўзнікала пазней — у сярэдзіне мінулага стагоддзя. Гэта ў першую чаргу звязана з творчасцю заснавальніка новай армянскай літаратуры Хачатура Абавяна і яго паслядоўнікаў — Геворка Дадахяна, Рафаэля Паткаяна, Газараса Атаяна і іншых выдатных пісьменнікаў.**

**Крыху пазней, ужо ў канцы XIX стагоддзя, у армянскай літаратуры шчодра раскрыўся талент Аванеса Туманяна. Ён напісаў шмат вершаў апавяданняў, па-майстэрску апрацаваў многія народныя казкі, паданні, у тым ліку вялікі твор народнага эпасу «Давід Сасунскі». Многае з напісанага А. Туманянам увайшло ў скарбонку дзіцячай літаратуры.**

**Асабліва значных поспехаў дасягнула армянская дзіцячая літаратура ў савецкі перыяд.**

**Творы армянскіх пісьменнікаў сталі вядомымі беларускаму чытачу дзякуючы перакладам, зробленым Р. Барадуліным, У. Някляевым, Г. Бураўкіным, С. Законнікавым, В. Іпатавай, У. Анісковічам, К. Камейшам, У. Карызнай і многімі іншымі.**

**Укладанне зборніка Сурэна Мурадзяна.**

## КАСТРЫЧНІКАМ З'ЯДНАНЫЯ

# УЗБАГАЧАЦЦА ВОПЫТАМ СЯБРОЎ

**З грузінскім літаратуразнаўцам і перакладчыкам Атарам НОДЗІЯ гутарыць наш карэспандэнт, паэт і перакладчык Уладзімір СІЎЧЫКАЎ**

**— Атар Філімонавіч, вы з'яўляецеся арганізатарам і старшынёй Галоўнай рэдакцыйнай калегіі па літаратурных сувязях і мастацкім перакладзе. У нас на Беларусі апошнім часам усё больш увагі надаецца праблемам перакладу як асноўнаму сродку літаратурных узаемасувязей. Многія пісьменнікі і літаратуразнаўцы ў сваіх выступленнях і артыкулах спасылаюцца на павучальны вопыт перакладчыкаў з іншых саюзных рэспублік. Зацікавіў нашых літаратараў і вопыт грузінскіх калег. Перш за ўсё маецца на ўвазе арганізацыя, якую вы ўзначальваеце.**

— Сапраўды, наша Калегія па літаратурных узаемасувязях і мастацкім перакладзе пакуль што — унікальная, адзіная ў сістэме рэспубліканскіх саюзаў арганізацыя, што ўзяла на сябе ролю актыўнага каардынатара ва ўсёўзрастаючай плыні перакладчыцкай практыкі.

**— А чым можна вытлумачыць, што Калегія як прынцыпова новая форма арганізацыі творчых сіл узнікла менавіта ў Грузіі?**

— Магчыма, тым, што ў нас вельмі прагны чытач. Няма праблемы рэалізацыі тыражоў — была б папера. Добрая кніга тыражом дзвесце тысяч экземпляраў разыходзіцца імгненна. Дастаткова багатая ў Грузіі і традыцыя перакладной літаратуры. Ужо ў V—VI стст. на грузінскую мову былі перакладзены Біблія і помнікі антычнасці.

У сярэднявеччы, да аб'яднання з Расіяй, шмат перакладалася з усходніх моў — у нас і зараз моцная школа іраналагаў і арабістаў, а з XVIII ст. умацаваліся перакладчыцкія кантакты з рускай і заходнееўрапейскай літаратурамі. За дзесяцігоддзі Савецкай улады інтэрнацыянальныя сувязі з культурамі народаў СССР, і беларускай у прыватнасці, атрымалі якасна новы характар.

У 1975 годзе была створана наша Калегія, мэта якой была вызначана так: перакласці на грузінскую, абхазскую і асецінскую мовы лепшыя творы літаратур народаў СССР і замежных краін, а таксама садзейнічаць зваротнай сувязі: перастварэнню на мовы свету найбольш каштоўнага з таго, што маем мы. У штаце Калегіі амаль 200 чалавек, але сэнс нашай дзейнасці куды шырэйшы за пэўныя літаратурныя клопаты — мы імкнуліся і імкнёмся павысіць культурны ўзровень народа.

**— Як жа вы разлічваеце дасягнуць гэтага?**

— Найперш мы марылі пра серыйныя выданні, якія ўбіралі б лепшыя дасягненні прагрэсіўнай чалавечай думкі. Мы пераклалі і выдалі Платона, Рабле, Паскаля, кнігу «Грэчаскія філосафы», «Дзённік Ганкураў», «Уліса» Джойса...

**— Але як Калегія арыентуецца ў акіяне сусветнай літаратуры?**

— Мы пачалі з таго, што стварылі картатэку: хто і што перакладае. Увялі практыку заявак, выявілі і апісалі ўсе вядомыя пераклады сусветнай літаратуры. Зараз ужо выдадзены першыя бібліяграфічныя даведнікі. Мы ўзялі на ўлік не толькі матэрыялы Інстытута рукапісаў Акадэміі навук Грузінскай ССР (звыш 90 друкаваных аркушаў), фонды краязнаўчых музеяў і архіваў рэспублікі, але і ўсё, што захоўваецца ва ўсіх культурных цэнтрах свету. Шмат грузінскіх рукапісаў захоўваецца, напрыклад, у архівах Ленінграда, Масквы, Лондана, у Галандыі.

**— Інакш кажучы, вы паставілі справу на навуковую аснову...**

— Так. Пытанні інфармацыі, каардынацыі, пытанні навукова-метадычныя, арганізацыйныя патрабавалі гнуткай структуры. Усё, што непасрэдна тычыцца творчых пытанняў, арганізацыі разнастайных семінараў, «круглых сталоў», бярэ на сябе Галоўная рэдакцыя мастацкага перакладу. Тут ацэньваюць якасць работы перакладчыка, даюць кансультацыі, а пры патрэбе ажыццяўляюць прафесійны арбітраж. Адзін з асноўных клопатаў рэдакцыі — падрыхтоўка перакладчыцкіх кадраў. Вы ведаеце, што існуе практыка абмену стажорамі. Дзякуючы ёй на Украіне плённа працуе цэлы атрад картвелолагаў, а ў нас — кваліфікаваныя ўкраіністы. Стажыраваліся ў нас групы балгарскіх перакладчыкаў, выпускніцы маскоўскага Літінстытута паэтэсы Ірына Мельнікава і Наталля Сакалоўская, Яфімія Цопа з Малдавіі, Она Міцкявічутэ з Літвы... Міжрэспубліканскі абмен студэнтамі універсітэтаў дае добры плён.

**— Наколькі я ведаю, кадры для вас рыхтуе Тбіліскі педагагічны інстытут замежных моў і кафедра літаратур народаў СССР і мастацкага перакладу Тбіліскага універсітэта, якую ўзначальвае прафесар А. А. Баканідзе. Давайце крыху спынімся на пытанні падрыхтоўкі маладых перакладчыкаў. Грузінскі вопыт можа спатрэбіцца і нашым універсітэтам...**

— У канцы I курса на філалагічным факультэце наладжваецца конкурс — своеасаблівая праверка творчых здольнасцей студэнтаў. На стацыянары і на вячэрнім аддзяленні фарміруюцца 2 спецгрупы перакладчыкаў (не больш як па 15 чалавек). Акрамя агульнафілалагічных дысцыплін для іх чытаюцца лекцыі па гісторыі і тэорыі перакладу, па літаратурных узаемасувязях, праводзяцца спецкурсы па паэтычным, публіцыстычным, навуковым перакладзе, па перакладзе прозы. Дарэчы, пытаннямі вывучэння беларускай літаратуры кіруе Канстанцін Квачантырадзе, аўтар саліднай працы «З гісторыі грузінска-беларускіх літаратурных узаемаадносін». Студэнты пішуць курсавыя і дыпломныя работы. Лепшыя з іх змяшчаюцца ў альманаху «Літаратурная садружнасць народаў СССР». Студэнты-перакладчыкі бяруць актыўны ўдзел у літаратурных вечарах, выступаюць на старонках універсітэцкага альманаха «Пірвелі схіві» («Першы прамень») і ў рэспубліканскім друку.

**— Напэўна, трэба асобна сказаць пра двухмоўныя зборнікі паэзіі, што выдае кафедра?**

— Такіх кніжак выйшла ўжо адзінаццаць і сярод іх томік беларускай паэзіі «Шчаслівы дзень» (1982). Складальнікам, рэдактарам і адным з перакладчыкаў яго выступіла Нана Гапрындашвілі, якая на працягу трох гадоў стажыравалася ў БДУ.

**— А не ўзнікае праблем з працаўладкаваннем выпускнікоў?**

— Кафедра мае магчымасць накіроўваць некаторых з іх на двухгадовую стажыроўку ў тую ці іншую рэспубліку. Ахвотна прымаюць выпускнікоў кафедры Музей дружбы народаў Акадэміі навук Грузінскай ССР і наша Калегія. Некаторыя ўладкоўваюцца ў рэдакцыях газет і часопісаў, на радыё і тэлебачанні. Акрамя асноўнай спецыяльнасці, усе яны маюць дыплом выкладчыка мовы і літаратуры. Наўрад ці хто-небудзь стане спрачацца, што такія кафедры неабходны кожнай рэспубліцы.

**— Хацелася б даведацца, Атар Філімонавіч, як вы ставіцеся да падрадковых перакладаў?**

— Агульнавядома, якія перавагі дае перакладчыку веданне мовы арыгінала. Ніхто не стане спрачацца, што, па магчымасці, трэба перакладаць з яе. Але ў СССР літаратура ствараецца на 78 мовах. Дзе можна ўзяць столькі перакладчыкаў з веданнем моў? Можна было б спаслацца на хрэстаматыйны прыклад: Барыс Пастарнак пераклаў Гётэ з нямецкай, Шэкспіра з англійскай і, не ведаючы мовы, гэтак жа бліскуча перакладаў творы грузінскіх паэтаў... Мне, напрыклад, несур'ёзнай бачыцца сама пастаноўка пытання — ці патрэбны падрадковыя пераклады? Гэтымі размовамі часта прыкрываюць свой непрафесіяналізм і лянотy. Зразумела, падрадковік патрэбны. Таму трэба думаць не пра тое, як яго вынішчыць, а пра тое, якім ён павінен быць. У нас існуюць сектары падрадковага перакладу на грузінскую і рускую мовы, а таксама рэдакцыя каўказскіх літаратур, якая займаецца перакладамі з армянскай, азербайджанскай, з моў народаў Паўночнага Каўказа, з абхазскай і асецінскай.

Рэдакцыя літаратурных узаемасувязей суправаджае кнігу на ўсім яе шляху ад задумы да выхаду ў свет. Кніга паслядоўна пераходзіць з «адсека» ў «адсек»: тут і Рэдакцыя літаратурнага кантролю, і Рэдакцыя ілюстрацыі і мастацка-тэхнічнага афармлення — да самага паступлення рукапісу ў выдавецтва. Дадам яшчэ, што існуе ў нас і Рэдакцыя каардынацыі, што займаецца рэкамендацыяй літаратуры для перакладу, рэцэнзаваннем, а таксама пытаннямі аўтарскага права і сумесных выданняў.

**— Значыць, рэкамедацыі для перакладу ажыццяўляе спецыяльная група? Ці выключаецца гэтым суб'ектывізм, выпадковасць?**

— Усе рэкамендацыі разглядае аўтарытэтная камісія, у складзе якой вядомыя грузінскія паэты і празаікі, прадстаўнікі выдавецтваў, рэспубліканскага аддзялення УААПа, Дзяржкамвыда — больш за дваццаць чалавек. Згадзіцеся, ва ўмовах такой шырокай публічнасці дзяляцтва і самацёк амаль выключаюцца. Зараз практычна кожны пераклад з усіх грузінскіх выдавецтваў ідзе на рэцэнзію ў Калегію. Яна стварае атмасферу строгага, патрабавальнага, кампетэнтнага прафесіяналізму.

Таму сёння мы можам назваць нямала бліскучых узнаўленняў. Выдатна пераклаў Буніна і Дастаеўскага Георгій Баканідзе, Гранта Матэвасяна — Зэзві Медулашвілі. У актыў трэба залічыць пераклады з яўрэйскіх паэтаў сярэдневяковай Іспаніі, што выканаў Джамал Аджыяшвілі, пераклады з Франсуа Віёна Давіда Цэрэдзіяні. Акрамя «чыстых» перакладчыкаў, з Калегіяй плённа супрацоўнічаюць і першакласныя грузінскія паэты. Гіві Гегечкоры перакладае з французскай, Гогі Нішніянідзе — з англійскай, Атар Чыладзе, Тарыэл Чантурыя, Эмзар Квіташвілі, Вахтанг Джавахадзе — з моў народаў СССР, у тым ліку і з беларускай. Некаторыя з іх рэальна прэтэндуюць на атрыманне спецыяльнай прэміі за работу ў галіне мастацкага перакладу, што носіць імя Іванэ Мачабелі, першага грузінскага перакладчыка шэкспіраўскіх трагедый.

Мы імкнёмся, каб і адносіны Калегіі з выдавецтвамі ладзіліся на аснове адзінства мэтаў. Ды і матэрыяльныя магчымасці можна аб'яднаць на карысць агульнай справе. Няўжо з-за неразумнай эканоміі мы павінны дыскрэдытаваць такую важную агульнадзяржаўную справу, як справа перакладу?

Паспяхова супрацоўнічаем мы з асецінскім выдавецтвам «Алашара», выдаём на абхазскай мове серыю «Сусветная літаратура».

**— З дапамогай Калегіі ў 1985 годзе ў «Юнацтве» ўбачылі свет «Грузінскія народныя казкі» ў перакладах А. Астапенкі і С. Міхальчука. Там жа і амаль адначасова ў серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР» выйшаў даволі салідны том твораў пісьменнікаў Грузіі і грузінскага фальклору «Дружная з сонцам». Гэта, можна сказаць, анталогія грузінскай дзіцячай літаратуры.**

**У апошнія дзесяцігоддзі значна актывізаваліся ўзаемныя кантакты беларускіх і грузінскіх пісьменнікаў. На Беларусі выйшлі паэма Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры», раман Ц. Данжашвілі «На Алазані», зборнікі апавяданняў «Твае грузінскія сябры» і «Горны вадаспад», аповесць О. Іяселіяні «За дзевяццю гарамі», кнігі выбраных вершаў М. Гелавані «Клятва» і даўняга сябра Беларусі Х. Берулава «Лісты надзеі», завяршаецца работа над перакладам рамана «Закон вечнасці» Надара Думбадзе.**

— А ў нас падрыхтаваны да друку тамы выбраных твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа. Аміран Асанідзе, які рэдагаваў купалаўскі зборнік, працуе над перакладам «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага. Сёлета выйдзе зборнік вершаў Алеся Разанава «Вандроўны горад», паэтыка якога стала для нас прыемным адкрыццём. Гэтую кнігу падрыхтаваў паэт і перакладчык Нугзар Каберыдзе. Запланаваны ў Калегіі і пераклад рамана Уладзіміра Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». У бліжэйшым нумары альманаха «Саунджэ» («Скарб»), які выходзіць шэсць разоў на год агульным аб'ёмам 120 друкаваных аркушаў і аб'ядноўвае функцыі, скажам, вашых «Даляглядаў» і «Братэрства», будзе надрукавана аповесць Васіля Быкава «Знак бяды».

**— Творчасць Васіля Быкава якраз даволі поўна прадстаўлена на грузінскай мове. Але вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што грузінскі чытач усё ж слаба ведае беларускую прозу. Наўрад ці што гавораць яму імёны М. Гарэцкага, К. Чорнага, М. Лынькова, Я. Брыля, В. Адамчыка. У той жа час немагчыма сказаць, калі нашы чытачы змогуць прачытаць па-беларуску раманы А. Казбегі, К. Гамсахурдзія, М. Джавахішвілі, С. Клдзіяшвілі, А. Чыладзе.**

— Што тычыцца паэзіі, то, акрамя універсітэцкага двухмоўнага зборніка «Шчаслівы дзень», які мы ўжо згадвалі, у апошнія дзесяцігоддзі ў Грузіі выйшлі даволі аб'ёмістыя кнігі «Беларуская савецкая паэзія» і «Беларускія савецкія паэты».

**— А ў нашым выдавецтве «Мастацкая літаратура» практычна завершана работа над двухтомнай анталогіяй грузінскай паэзіі. У яе падрыхтоўцы, асабліва на першым этапе, актыўны ўдзел бралі супрацоўнікі Калегіі.**

**Аб праблеме адбору твораў, якасці ўзнаўлення і многіх іншых праблемах у маі мінулага года ішла гутарка на міжрэспубліканскай навуковай канферэнцыі «Узаемаўзбагачэнне літаратур народаў СССР (на прыкладзе грузінска-беларускай грамадска-літаратурнай садружнасці)», якая адбылася на філалагічным факультэце БДУ імя У. І. Леніна. Яе ўдзельнікі, супрацоўнікі Музея дружбы народаў АН ГССР і выкладчыкі Белдзяржуніверсітэта, прачыталі шэраг змястоўных дакладаў. Было выказана нямала цікавых ідэй (напрыклад, аб стварэнні купалаўскага мемарыяла ў Цхалтуба), а таксама спадзяванне, што падобныя сустрэчы стануць традыцыйнымі.**

— Я думаю, што ўсё гэта дае падставы спадзявацца на далейшае развіццё грузінска-беларускіх літаратурных узаемасувязей.

**— Сапраўды, нам трэба яшчэ шмат чаго зрабіць. Вялікі дзякуй вам, Атар Філімонавіч, за змястоўную гутарку.**

# ПРАЗ ПАМЯЦЬ ДЗЯЦІНСТВА

*Л. Левановіч. Шчыглы. Раман. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1987.*

ГЛЫБОКАЕ асэнсаванне подзвігу беларускага народа *ў гады Вялікай Айчыннай вайны* немагчыма без пільнай увагі да першых мірных месяцаў і гадоў, якія вымагалі ад людзей таксама вялікіх, як і ў пару ваеннага ліхалецця, маральных і фізічных выпрабаванняў і былі, па сутнасці, *працягам ваеннага подзвігу.* Знясіленыя акупацыяй людзі павінны былі не толькі засеяць палі, адбудаваць жыллё, апрануцца, перамагчы голад і нястачу, але і дапамагчы краіне канчаткова разбіць ворага, які яшчэ супраціўляўся. Менавіта на гэтых падзеях і засяроджвае сваю ўвагу Л. Левановіч у рамане «Шчыглы».

Дата напісання твора (1976, 1982—1983) сведчыць аб тым, што ствараўся ён нялёгка. У аснову рамана пакладзена асабістае, вельмі дарагое для пісьменніка — памяць пра гады дзяцінства, станаўлення чалавечай асобы. Гэта пацвярджаюць радкі прысвячэння: «Памяці маіх братоў Хведара, Міхаіла, Міколкі і Толіка».

Асноўная сюжэтная лінія ў творы — паказ жыцця звычайнай беларускай сям'і Сахутаў, якая спаўна зведала ваенныя выпрабаванні. Прапаў без вестак старэйшы сын, знаходзіцца на фронце гаспадар, а на руках у Кацярыны Сахуты — пяцёра дзяцей і старая нямоглая маці.

Думаецца, што пісьменніку ўдалося стварыць светлы, узвышаны вобраз жанчыны-маці. Яго Кацярына Сахута прыгожая ў сваёй мужнасці, працавітасці, цягавітасці, мацярынскай любові, чалавечай чуласці і спагадлівасці.

Цэнтральнае месца ў сюжэтнай лініі сям'і Сахутаў займае вобраз шасцігадовага Андрэйкі. Вобраз гэты, па ўсім відаць, аўтабіяграфічны (у час вайны пісьменнік быў у такім жа ўзросце, як і яго герой).

Аўтар рамана засяроджвае ўвагу на ўнутраным свеце дзіцяці, *дакладна перадае* рухі душы маленькага чалавека, яго пачуцці, думкі, перажыванні. Л. Левановіч пераканаўча паказвае, што вайна і ўсё звязанае з ёю — варожае дзіцячаму свету. Разам з тым жорсткасць і бязлітаснасць абставін не прытупляе цягу дзіцяці да прыгожага. Хлопчык прагне гармоніі і, як паказвае пісьменнік, пасля ўсяго перажытага ў стане адчуваць яе. «Што за асалода бегаць па адталай, яшчэ халадноватай, але ўжо абуджанай зямлі! Босыя ногі забыліся за доўгую зіму, як казыча сухая трава, колюцца цёплыя каменьчыкі, шурпата лашчыцца вільготны жвір ля Бесядзі. Здаецца, усёй істотай адчуваеш ты, як дыхае зямля, бачыш, як зялёныя шыльцы *травы працінаюць леташняе* лісце, чуеш спеў жаўранка. І душа поўніцца першароднай радасцю быцця, уцехаю еднасці з вадою, зямлёю і сонцам».

Пісьменнік паказвае, як непрыкмет, крок за крокам адбываецца сталенне героя, як дзіцячы розум спыняецца перад складанымі жыццёвымі з'явамі і спрабуе іх асэнсаваць. Вось маці хлопчыка адважылася нажаць снапок жыта на калгасным палетку, каб хоць раз накарміць галодную сям'ю. Бацька быў супраць гэтага, таму выказаў сваё абурэнне. Пакрыўджаная маці, сама перажываючы, назвала бацьку «совісным дурнем» і прыпомніла, як той калісьці вярнуў п'янаму крамніку згубленую трубку матэрыі і як потым пасмейваліся людзі, што ў Сахуты дзеці голыя, а ён аддаў такую знаходку. Андрэйку тут многа незразумела. Ён пашкадаваў, што бацька не пакінуў сабе тую трубку паркалю, у яго зараз былі б лепшыя, чым у іншых, кашулька і штонікі. «А потым ён падумаў, што таго чалавека пасадзілі б у турму, а бацька яго выручыў. Значыць, гэта ж добра. Але чаму ж маці лае бацьку? Яна сама гаворыць Андрэйку, каб нідзе нічога не браў без дазволу, барані божа, нічога не краў—гэта вялікі грэх. Але калі ты знайшоў, то можна і не аддаваць. А больш за ўсё ўразіла малога, што людзі *смяяліся з бацькі*. Чаму? Няўжо кепска быць чэсным?»

Назва рамана «Шчыглы» — невыпадковая. Маленькая звонкагалосая птушка шчыгол набывае значэнне сімвалу неўміручасці жыцця, узмацняючы аптымістычнае гучанне твора. У параўнанні дзяцей з птушкамі, якое неадназарова сустракаецца ў рамане, бачыцца глыбокі гуманістычны сэнс. Дзецям, якія ў сваёй безабароннасці сапраўды ў нечым нагадваюць птушак, было *наканавана лёсам вынесці разам* з дарослымі ваеннае ліхалецце. Дзеці — працяг жыцця, ім належыць будучае, але ж яно, гэтае жыццё, завельмі кволае. Памерла маленькая Маруся, напалоханая немцам; застудзіўшыся, памёр Колька — таленавіты, разумны хлопчык.

Раман Л. Левановіча насычаны нявыдуманымі і таму шчымлівымі рэальнымі прыкметамі таго суровага часу: драцяныя лапцікі, хлеб з казельцу, ад якога пухлі і хварэлі людзі, тыф, вечнае пачуццё голаду, асабліва пакутлівае для дзяцей....

Пісьменнік спыняе ўвагу не толькі на цяжкіх момантах у жыцці герояў. Сапраўдную гаючую радасць знаходзяць яны ў працы, у звыклым сялянскім занятку. «Аднойчы з раніцы маці і Марына ўзяліся навіваць кросны. Стол з кута адсунулі да палка, паставілі вялізныя ставіны, ззаду ў паўкруглы выраз устанавілі навой, на яго наматвалі ніткі — рабілі аснову, ніткі працягвалі ў ніты, за нітамі ўмацавалі бёрда, а паміж бёрдам і нітамі будзе бегаць чаўнок... Настрой у маці быў вясёлы, яна аж памаладзела. Нават спрабавала нешта ціхутка падпяваць у такт стукліваму рытму бёрда».

Раман, як вядома, патрабуе шматпланавасці. Таму, зразумела, побач з сям'ёй Сахутаў, з жыхарамі вёскі Хатынічы *з'яўляюцца ў творы кіраўнікі раёна і вобласці.* Найбольш запамінаецца Крупадзёраў — упаўнаважаны па нарыхтоўках. Пісьменнік прасачыў асноўныя жыццёвыя этапы героя, заваструшы ўвагу на такіх рысах яго характару, як прыродная кемлівасць, уменне арыентавацца ў абставінах, мэтанакіраванасць, настойлівасць, а побач з гэтым — жаданне вылучыцца з масы, звярнуць на сябе ўвагу. Аўтар паказвае, як паступова лепшыя дзеявыя якасці героя ўсё часцей пачынаюць падпарадкоўвацца жаданню любымі сродкамі дасягнуць пастаўленай мэты — каб сцвердзіць сябе ў вачах начальства.

Крупадзёраў — чалавек, народжаны сваім часам. Іншы раз жорсткі і нават бесчалавечны ў сваёй патрабавальнасці да людзей, ён, тым не менш, па-свойму аддадзены даручанай яму справе і, як гэта ні парадаксальна, патрэбны ёй. Эканамічнае становішча краіны ў той час было настолькі цяжкім, што і крутыя меры пускаліся ў ход: каб сабраць з насельніцтва падаткі, займы, пазыкі дзеля перамогі, дзеля аднаўлення разбуранай гаспадаркі.

Разумны і чалавечны Пракапенка — старшыня райвыканкома — бачыць памылкі Крупадзёрава, некаторыя парушэнні закона, якія той дапускае. Аднак выбару няма («Кадраў не хапала, якія былі, хутка мяняліся: адных даводзілася здымаць, іншыя самі прасіліся ў адстаўку...»). І ён супакойвае сябе тым, што працуе Крупадзёраў не дзеля асабістай выгады.

Варта адзначыць, што вобразы кіраўнікоў задуманы цікава, аднак у параўнанні з сям'ёй Сахутаў, дзедам Гылігорам, Хадорай, Арцёмам Шандабылам—жыхарамі вёскі, паказаны яны менш *пераканаўча*.

Пры ўсёй непадобнасці характараў, якая, безумоўна, адчуваецца ў рамане, Акапян, Даўгалёў, Пракапенка, Чэпікаў шмат у чым паўтараюць адзін аднаго. Увявіць іх воблік, *партрэты, асаблівасці паводзін* — цяжка. Думаецца, гэтыя героі не раскрыты ў патрэбнай ступені (за выключэннем хіба Акапяна, ды і ён запамінаецца, бадай, дзякуючы сваёй нацыянальнай прыналежнасці), яны не набылі чалавечую непаўторнасць.

Як станоўчы момант у рамане Л. Левановіча можна адзначыць тое, што пісьменнік не згладжвае складаныя чалавечыя праблемы, якія пакінула пасля сябе вайна. Няпростым бачыцца лёс Просі, жонкі паліцая Вароніна, лёс Валодзькі Бравусава, хоць яго жыццё склалася больш удала. Пасля вайны ён вырашыў стаць міліцыянерам, што, як паказвае аўтар, было невыпадковым. У час вайны ён камандаваў узводам у партызанскім атрадзе, *у арміі таксама быў на* камандзірскай пасадзе. Адным словам, «паспеў Валодзька Бравусаў адчуць слодыч улады над людзьмі: прыемна, калі цябе слухаюцца і баяцца».

Думаецца, сутнасць Бравусава раскрылася перш за ўсё ў ваенных абставінах. Жаданне мець пэўную перавагу над таварышамі па зброі падштурхнула яго да згоды стаць даносчыкам, а потым нават замахнуцца на жыццё аднапалчаніна. Фактычна, пісьменнік не робіць Валодзьку Бравусава вінаватым у смерці таварыша: той загінуў ад кулі ці ад варожага снарада. Але тое, што Бравусаў узяў на мушку Рацэева, азначае, што ён ужо перайшоў нейкую чалавечую мяжу. І гэтую думку аўтар даводзіць праз перажыванні самога Бравусава. *Калі ён убачыў,* што Рацэеў упаў, то «падхапіўся і пабег наперад, яго трэсла як у ліхаманцы, клацалі зубы. Ён бег і прасіў, маліў, каб снарад упаў бліжэй каля Рацэева. «Я не страляў, а могуць падумаць на мяне»,— *білася шалёная думка* ў атупелай галаве. І калі ляснуў выбух, ён упаў, азірнуўся і на імгненне аж узрадаваўся: там, дзе ляжаў Рацэеў, чарнелася гурба свежай зямлі. Ногі самі панеслі Бравусава наперад, далей ад гэтага страшнага месца. «Калі б не я, яго б, можа, і не забіла»,—з жахам і жалем падумаў Бравусаў, выціраючы рукавом шыняля пот і слёзы».

# Шаснаццаць смехатворцаў і... мала смеху

ШТО І КАЗАЦЬ, мала чым радуе нас сатырычна-гумарыстычны цэх нашай літаратуры. Жывём на строме часу, ваюем з ачмурэлымі апалагетамі «зорных» войнаў, ламаем закаранелыя ўстоі сваёй свядомасці, любім, хвалюемся і абураемся, а сатырыкі і гумарысты, аднак, прыкмет жыцця не падаюць.

Ды вось нарэшце паліцы кнігарняў павесялелі новай кніжкай апавяданняў, мініяцюр і афарызмаў «Не дзеля смеху», якая пад сваёй вокладкай аб'яднала аж шаснаццаць аўтараў. Дык хіба пройдзеш раўнадушна міма такой вясёлай кампаніі?

Паслухаем жа дасціпных людзей.

Аляксандр Аляксейчык «Дзіўнае побач». Нейкія лайдакі з нейкай фабрыкі ці з атэлье, а калі больш дакладна, дык з апавядання «Рэкламацыя», вось ужо на працягу дваццаці двух гадоў шыюць гарнітуры, якіх ніхто не купляе, і гатовая прадукцыя, калі толькі можна яе так назваць, марнее на складах, мазоліць у крамах вочы пакупнікам і самім прадаўцам. Ніхто не купляе — і правільна робіць, бо тыя гарнітуры нейкага незразумелага колеру, бо ў іх рознакаляровыя рукавы, а штаніны «кульгаюць» аж на дванаццаць сантыметраў. Дык і не дзіва, што з новай партыі пашыву за тры дні ўсімі крамамі горада прададзены ўсяго адзін гарнітур, дый то пакупнік яго з скаргай прыбег: штаніны няроўныя, рукавы рознага колеру!

І тут ловіш сябе на думцы, што аўтар тужыцца рассмяшыць нас дарма. Ну, скажыце, няўжо які няўдачнік купляў бы сабе гарнітур, спярша не прымераўшы яго, не паглядзеўшыся ў люстэрка пры гэтым? Нарэшце, якая крама ўзяла б на сябе адказнасць прыняць тую пакалечаную прадукцыю, наперад ведаючы, што яна толькі месца займаць будзе?

Хтосьці можа заўважыць, што рэцэнзент не мае пачуцця гумару. Магчыма. Ён і сам гэтак падумаў і, так і не засмяяўшыся на працягу ўсіх 180 старонак, вырашыў пачытаць у сяброўскай кампаніі што-небудзь дасціпнае. Чытаў, вядома, не ўсё, а толькі карацейшае, тым больш, што кніга багата на гэткі жанр — мініяцюры, афарызмы ці, як іх яшчэ называюць, «шрацінкі». Кіраваўся тут рэцэнзент самым просценькім правілам: гуртам і кашу есці весялей, ну а смяяцца — само сабой. І што ж?

Мікалай Місюк. «Сярод навуковых супрацоўнікаў». Працытуем адзін з яго «Падслуханых дыялогаў».

«Б.— Ты прачытаў маю работу?

А.— Так.

Б.— А што цяпер трэба зрабіць, каб шэф дазволіў яе апублікаваць?

А.— Узяць яго ў сааўтары».

Прывядзём і яшчэ некалькі прыкладаў. Леанід Бандаровіч. «Неспакойная думка». «Уляцэць у капеечку. Купіць карабок запалак». І яшчэ: «Дзіравая галава. Кошачка-скарбонка». Давід Нахамкес. «Буйныя дробязі». «Розніцы паміж старшымі і малодшымі навуковымі супрацоўнікамі не было, таму рашылі ўсіх лічыць сярэднімі». Або: «Цікава, чым думаюць пустыя галовы?» Марына Нікіціна. «Праветраныя зярняткі». «Адны пішуць дысертацыі ад вялікага розуму, а другія — ад недахопу таго». Зноў жа: «— Ці доўга да граху? — пытанне, якое часта хвалюе мужчын». Валянцін Сярэбраны. «Міні-характарыстыкі». «Работу, як пальчаткі, часцей мяняюць бязрукія». Нарэшце: «Маляр працаваў неакуратна, пагэтаму яго часта кідала ў фарбу». Уладзімір Страбкоў. «Карацей кажучы». «Ёсць жа дзівакі: запытаеш — што такое каратэ, а ён ні ў зуб нагой».

Адчуваю ваша нецярпенне: мо і хопіць ужо? Абсалютна з вамі згодзен. І субяседнікі мае, якіх хацелася рассмяшыць з дапамогай шаснаццаці смехатворцаў, тое ж самае сказалі. Ну, хопіць дык хопіць. Але ж яшчэ нас гасцінна заклікае Яўген Тамашэвіч: «Прашу на ўкол». З задавальненнем!

У апавяданні «Падаў ідэю» аўтар пасылае медыкаў і фабрычных рабочых у падшэфны калгас на сенаўборку. Медыкі касіць не ўмелі, давялося ісці ім на стагаванне. А вось «лепшыя з лепшых», «што нядаўна ў цвярозілцы пабывалі», слесар Гаршкоў і падсобнік Дзяругін (далей чамусьці ўжо абодва яны становяцца слесарамі) да паступлення на фабрыку жылі ў вёсцы і яшчэ ў дзяцінстве траўкай падкормлівалі сваіх трусікаў, так што косы трымаць у руках умелі. Яны і касілі, папярэджаныя, «што кожны павінен выкасіць дзённую норму — накасіць каля балот тры з паловай цэнтнеры травы. Пры сярэднім травастоі вопытны касец столькі накосіць за паўдня». Ці не газетны рэпартаж чытаю, падумалася мне. А далей і зусім дзівы пайшлі: «пасля ўзважвання траву трэба зноў раскідаць, каб сохла хутчэй...»

Паслухайце, а дзе ж так робяць? Ну, дапусцім, тая трава прызначалася б на сілас, тады можна б і ўзважыць яе адразу недзе там каля ямы. Але ж, як бачым, на сена. Ды ў такім разе нават канюшынка, а не балотная трава ў залатую капеечку вылецела б, калі яе, скасіўшы, тут жа складваць на воз, кудысьці везці і ўзважваць, каб потым зноў растрэсваць пад сонца!

Ужо на пачатку апавядання робіш здагадку, што «лепшыя з лепшых» абавязкова павінны выкінуць нейкую штуковіну. Што і зрабілі яны. Да абеду сяк-так назбіваўшы травы па паўнормы на брата, апрыходавалі паўлітэрку і падаліся ў цянёк. Але ж дзень канчаецца, набліжаўся час важыць траву, якой не хапала. Патрэбна была нейкая выкрутка. І яна знайшлася. Вагаўшчык, не паверыўшы, што на возе «паўтары нормы, хаця па знешняму выгляду — не больш адной», рашыў праверыць, ці не каменне там, і, «схапіўшы вілы, ён увагнаў іх глыбока ў траву...»

«А-а-а! — У той жа момант раздаўся прыглушаны крык.

Вагаўшчык у момант выхапіў вілы, раскідалі траву, і з павозкі саскочыў Дзяругін, а Гаршкоў ляжаў на жываце і стагнаў. У яго ніжэй паясніцы на штанах была невялікая дзірка, вакол

Гэты выпадак не дае спакою Бравусаву і пазней. Але хоць ён і адзінкавы, ці не выяўляецца ў ім нешта вельмі істотнае і сур'ёзнае ў характары гэтага чалавека?

Пісьменнік паказвае Валодзьку Бравусава пасля вайны. І адкрываецца, што ў Бравусава няма спагады і жалю да людзей, ён аднолькава ненавідзіць і паліцая Вароніна, і яго жонку Просю (хоць Воронін — здраднік, а Прося — ахвяра лёсу, спакутаваная пражытым жанчына), па першаму даносу, не разабраўшыся, ён можа арыштаваць чалавека, высунуць цяжкія абвінавачванні супраць яго. Логіка развіцця характару героя паказвае, што над усімі яго пачуццямі бярэ верх усё тая ж «слодыч улады» над людзьмі.

Л. Левановіч спрабуе паказаць падзеі, адлюстраваныя ў творы, у кантэксце падзей сусветных. Урыўкі з кнігі «Перапіска Старшыні Савета Міністраў СССР з прэзідэнтамі ЗША і прэм'ер-міністрамі Вялікабрытаніі ў час Вялікай Айчыннай вайны 1941—1945 гг.», якія час ад часу прыводзяцца, маюцца на мэце стварыць у рамане адчуванне непарыўнай сувязі тых грандыёзных падзей, якія вырашалі лёс чалавецтва, з непрыкметнымі, на першы погляд, справамі жыхароў аднаго з вызваленых раёнаў Беларусі. Аднак, думаецца, гэты літаратурны прыём не ўпісаўся арганічна ў мастацкую тканіну твора і выглядае штучна.

Нельга не пагадзіцца з думкай крытыка П. Дзюбайлы («Полымя», № 4, 1987), які лічыць, што Л. Левановіч у сваім рамане не здолеў прыйсці да шырокіх рэалістычных абагульненняў.

І сапраўды, адносна большасці характараў, намечаных у творы, можна сказаць наступнае. Калі б аўтару ўдалося зрабіць іх псіхалагічна пераканаўчымі, паўнакроўнымі, каб ён здолеў паказаць лёс сваіх герояў у сутыкненні і перапляценні, як гэта і бывае ў жыцці, то твор набыў бы сапраўдную панарамнасць, бо па аўтарскай задуме жыццё кожнага героя суаднесена з лёсам краіны, з гістарычнымі этапамі яе развіцця.

**Таццяна ДАСАЕВА.**

---

якой распаўзалася чырвоная пляміна».

Не, нічога страшнага не здарылася, тым больш што побач аказаліся медыкі, якія, дарэчы, і пасаблялі лодарам у той афёры, а ў вадзіцеля знайшлася аптэчка. Але... Гэта ж трэба ў адно невялічкае апавяданне згрузіць столькі недакладнасцей! Ды ўжо ж якімі б лежабокамі ні былі тыя «лепшыя з лепшых», а ўсяго хвілін праз некалькі яны павыскоквалі б з сырой балотнай травы, як з прысаку!

Не хочацца спыняцца на астатніх пяці апавяданнях Я. Тамашэвіча — яны напісаны прыблізна на тым жа ўзроўні.

Не падумайце, што ўся кніжка наскрозь такая. Не! Ёсць у ёй нейкія разважанні і павучанні, ёсць пэўная інфармацыя і спроба гаварыць на гумарыстычнай ноце. Але кніга пазбаўлена асноўнай сваёй зброі — смеху, і няма ёй чым змагацца, і не можа яна выканаць свайго прызначэння, на што, пэўна ж, разлічвалі выдаўцы. Ва ўмовах рашучай перабудовы такі прыгладжаны, прычасаны, а то і недарэчны гумар наўрад ці можа быць карысным, асабліва там, дзе пераказваецца даўно вядомае. І не думаецца, што ўсе шаснаццаць аўтараў маглі так змовіцца — не даць чытачу і ўсміхнуцца. Але ж у кніжкі былі і складальнік, і рэцэнзент, нарэшце, і рэдактар. Ім жа першым і належала ўсклікнуць: калі ж будзем смяяцца?

**Іван КІРЭЙЧЫК.**

---

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# ПРАСТОР ІНТЭРНАЦЫЯНАЛЬНАГА НЕБА

ІМЯ ЛІТАРАТАРА, доктара філалагічных навук Марыны Новікавай з Сімферопаля добра вядома беларускаму чытачу. Прынамсі, на старонках «ЛіМа» змяшчаліся яе артыкул «Служба памяці», у якім госця дзялілася ўражаннямі аб некаторых аспектах культурнага, духоўнага жыцця нашага народа, разважала аб захаванні гістарычнай памяці, і разгорнутае інтэрв'ю «Групавы партрэт з Барадуліным» — удалая спроба праз гутарку з беларускімі пісьменнікамі стварыць своеасаблівы калектыўны партрэт паэтаў, так званага, сярэдняга, ці як яшчэ яго называлі, філалагічнага пакалення.

Аднак галоўнае ў творчасці М. Новікавай — вывучэнне міжнацыянальных літаратурных узаемасувязей, даследаванне перакладчыцкага майстэрства і шляхоў яго далейшага ідэйна-мастацкага павышэння. Менавіта гэтым пытанням: літаратура — перакладчык — жыццё — прысвечана кніга літаратурна-крытычных нарысаў М. Новікавай «Прекрасен наш союз», выпушчаная нядаўна выдавецтвам «Радянський письменник». Зборнік, адразу скажам, уяўляе вялікую цікавасць і для саміх перакладчыкаў, і для паэтаў (гаворка вядзецца на матэрыяле перакладаў паэзіі), і для ўсіх чытачоў, хто хоча больш ведаць, што дзеецца не толькі ва ўкраінскай, але і ў іншых братніх літаратурах.

З першых жа старонак кніга, трэба думаць, зацікавіць нават тых, хто, здавалася б, далёкі ад справы мастацкага перакладу. Аўтар размаўляе не казённа-суха, не завучана-акадэмічна, а гэтым вызначаюцца многія літаратуразнаўчыя працы і манаграфіі і па сённяшні дзень — а даверліва і выразна, выклікаючы на ўзаемнасць. Эмацыянальнасць у дадзеным выпадку не толькі не шкодзіць сур'ёзна гаварыць аб сур'ёзным, а, наадварот, яшчэ цяснейшым робіць кантакт паміж даследчыкам і чытачом.

Захоплена піша М. Новікава аб тым, як разумее яна асаблівасці і неабходнасць перакладчыцкай справы на сучасным этапе: «Перакладчык знаходзіцца «пасярэдзіне» многіх працэсаў, на скрыжаванні многіх праблем. Ён — сувязны розначасовых эпох і рознанацыянальных традыцый. Ён — сінтэзатар «свайго» культурнага багацця і «іншых», суседніх ці далёкіх, але братніх культур. Ён стаіць на высокай службе і ў мовы, і ў літаратуры».

разуменне спецыфічнае. Па-першае, не пасіўнае, а актыўнае. Па-другое, не абстрактнае, а рэалізаванае ў тэксце. Па-трэцяе, як кожнае разуменне, яно завяршаецца «перакладам» таго, што сказалі «іншыя». Аднак у нашым выпадку «іншым» будзе не толькі чалавек (аўтар).

Першы раздзел «Круглы стол: стваральнікі перакладаў, выдаўцы перакладаў» дазваляе адчуць, што думаюць пра пераклад і яго ролю ў сучасным творчым працэсе, а калі шырэй — у пашырэнні міжнацыянальных кантактаў — выдатныя прадстаўнікі ўкраінскай літаратуры, у першую чаргу тыя, хто сам займаецца перакладамі, а таксама мае дачыненне да выпуску кніг: «Стол гэты не толькі круглы, але і нябачны. Удзельнікі яго гутараць адзін з адным не напрамую, а праз мае да іх пытанні. Пытанні — аб ролі перакладу ў міжнацыянальным дыялогу нашых літаратур».

У наступных раздзелах — «Інтэрпрэтацыя ці рэпрадукцыя?», «Перакладчыцкая ўстаноўка: сола для аркестра», «Перакладны тэкст: ці толькі словы?» — не прэтэндуючы на ісціну ў *апошняй* інстанцыі, М. Новікава дае сваё разуменне перакладу і яго месца ў літаратуры і жыцці, выкарыстоўваючы багаты вопыт украінскай перакладной школы, а таксама звяртаючыся да вопыту братніх літаратур. Вывады даследчыцы, як правіла, маюць лаканічны характар, думка завершаная і канкрэтная. «Перакладчыцкая інтэрпрэтацыя, — піша аўтар, — гэта разуменне арыгіналу. Але не толькі мова, не толькі культура. Зразумела, наколькі ўскладняецца (але і ўзбагачаецца!) пры гэтым само разуменне».

Неаднаразова аўтар будуе разважанні і на вопыце, матэрыяле беларускай перакладчыцкай школы. У прыватнасці, М. Новікава адзначае «тонкасць і ўзважанасць» работы Р. Барадуліна-перакладчыка, маючы на ўвазе пераўвасабленне ім па-беларуску паэзіі І. Драча. «У яго перакладзе,— чытаем у кнізе,— не сустрэнеш ніводнага фальшывага элемента, выпадання з аўтарскага кантэксту. Ні там, дзе Барадулін тэкстуальна дакладны, ні там, дзе ён ад арыгінала адступае. Таму што адступаць «чым далей ад *арыгінала, тым бліжэй да яго*» (К. Чукоўскі) здольны перакладчык, які ведае, куды ісці далей і ў імя чаго».

Высока ацэньвае М. Новікава перакладчыцкае майстэрства Н. Гілевіча, у прыватнасці, зазначае: «Гілевіч, як перакладчык, даўно і трывала звязаны з Балгарыяй: дастаткова перагарнуць том балгарскай паэзіі, выдадзены ў Мінску, каб у гэтым пераканацца. Але сутнасць яго прывязанасці — не толькі і не столькі «азнаямленча»-асветніцкая. Як іспанская Герніка названа ў Гілевіча «сястрой Беларусі», так і на балгарскай зямлі ён бачыць славянскае «братэрства векавое», змацаванае крывёю. Паўсюдна ў сусветнай гісторыі ён шукае «беларускае рэха»: агульную радаслоўную пакутнікаў і воінаў, народных абаронцаў і трыбунаў. Адзін з тых пісьменнікаў, каму на ўвесь свет давялося адказваць: што дае «маламу» народу сілы выстаяць перад пагрозай татальнага знішчэння? — Гілевіч адказваў на гэта і вершамі, і перакладамі».

Аўтар звяртаецца таксама да перакладчыцкай дзейнасці Петруся Броўкі, Юркі Гаўрука, Алега Лойкі, Язэпа Семяжона, Максіма Лужаніна... Яна паступова прыходзіць да думкі, дзеля якой, уласна кажучы, і робіцца гэты аналіз: «Індывідуальная творчая ўстаноўка, індывідуальны стыль, асабістыя шуканні перакладчыка — усё гэта як быццам такое ўнікальнае, што не паддаецца тыражаванню. Але менавіта дзякуючы асабістай непаўторнасці яно і становіцца грамадска карысным. Кожны перакладчык іграе сола. А між тым «мелодыю» яго падхопліваюць іншыя. Сола ж прыдатна для цэлага аркестра».

«Хто яго навучыць?», маючы на ўвазе майстэрства перакладчыка, задае М. Новікава пытанне, называючы шляхі і меры, якія могуць садзейнічаць павышэнню актыўнасці перастваральнікаў літаратуры, нададуць заслужаны аўтарытэт іх працы. Сярод іх — абмен асобнымі нумарамі часопісаў, што выходзяць у братніх саюзных рэспубліках (падтрымлівае ў гэтым кірунку ініцыятыву часопіса «Неман»), заклапочана гаворыць аб неабходнасці рэгулярна інфармаваць чытача аб выхадзе перакладных кніг і, памагчымасці, рэцэнзаваць іх (адзначае сістэматычнае з'яўленне падобных публікацый на старонках «ЛіМа»).

Як не пагадзіцца з заключнымі словамі даследчыцы: «Цудоўны наш саюз. І тым больш моцны ён, чым глыбейшая нацыянальная аснова, у якую ідуць яго карэнні, чым больш прасторнае на ім (па словах Івана Франко) інтэрнацыянальнае неба».

**А. КУНЦЭВІЧ.**

---

# НА ЧАЛЕ ПЕРАБУДОВЫ—КАМУНІСТЫ

**Назва чарговага зборніка (складальнікі М. Кожанаў і А. Чарняк), прысвечанага надзённым пытанням паскоранага развіцця савецкага грамадства на сучасным этапе, які пабачыў свет у Маскве ў Выдавецтве *палітычнай літаратуры*, гаворыць сама за сябе — «Ідзе перабудова». «Чытач, безумоўна, заўважыць, — гаворыцца ў прадмове, — што большасць аўтараў змешчаных тут артыкулаў з'яўляюцца першымі сакратарамі партыйных камітэтаў. І гэта невыпадкова. Як вядома, на чэрвеньскім (1986 г.) Пленуме ЦК КПСС асабліва адзначалася тая вялізная роля, якая належыць кіраўнікам партыйных органаў, і перш за ўсё першым сакратарам ЦК кампартый саюзных рэспублік, крайкомаў і абкомаў, *гарадскіх і раённых камітэтаў* партыі ў сцвярджэнні новага стылю. Ад іх пазіцыі, дзеяннняў і паводзін у многім залежыць, наколькі паслядоўна і энергічна будзе перабудоўвацца партыйная работа. Менавіта яны абавязаны задаваць тон у рабоце, паказваць шырыню палітычнага кругагляду, глыбіню разумення задач, арганізатарскія здольнасці, высокую адказнасць, крытычнасць і самакрытычнасць у ацэнках, партыйнасць у самым высокім разуменні гэтага слова. Толькі тады можна разлічваць на паспяховыя вынікі, на творчую атмасферу ў раёне, горадзе, вобласці, рэспубліцы».**

**Сярод аўтараў кнігі — кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар Ленінградскага абкома КПСС Ю. Салаўёў, першы сакратар ЦК Кампартыі Грузіі Д. Паціашвілі і іншыя.**

**«...Плюс павышэнне адказнасці» — так называецца артыкул першага сакратара ЦК Кампартыі Беларусі (у перыяд напісання артыкула — першага сакратара Брэсцкага абкома Кампартыі Беларусі) Я. Я. Сакалова. У артыкуле расказваецца, як працаўнікі Брэсцкай вобласці прыкладаюць канкрэтныя намаганні па рэалізацыі выпрацаванага XXVII з'ездам КПСС курсу на паскарэнне сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны.**

**В. БАНДАРЫК.**

---

# *ПАТРАБАВАННЕ ЧАСУ*

**У зборнік «Паскарэнне: праблемы, рэзервы», складзены М. Сердзюковым і выпушчаны выдавецтвам «Беларусь», увайшлі матэрыялы, якія ў апошні час змяшчаліся ў «Правде», часопісе «Коммунист», а ў асноўным — на старонках рэспубліканскай перыёдыкі. У іх — роздум партыйных і гаспадарчых работнікаў, вучоных, журналістаў аб эфектыўным выкарыстанні рэзерваў для ажыццяўлення задач, пастаўленых XXVII з'ездам КПСС, паспяховым вырашэнні пытанняў перабудовы ўсіх бакоў жыцця.**

**Аўтары разважаюць аб ролі навукі ў развіцці народнай гаспадаркі рэспублікі, разглядаюць задачы паспяховага вырашэння комплекснай праграмы «Інтэнсіфікацыя», падказваюць напрамкі ўдасканалення гаспадарчага механізма, называюць адрасы перадавых метадаў арганізацыі і аплаты працы.**

**У адным з раздзелаў— «Справа ўсіх, справа кожнага» — гаворыцца аб перабудове партыйнай і ўсёй ідэалагічнай работы, аб сацыяльнай актыўнасці працоўных ва ўмовах *паскоранага* грамадскага развіцця, ініцыятыве працоўных калектываў па выхаванні ўсебакова развітой, гарманічнай асобы.**

**Некаторыя матэрыялы ў свой час друкаваліся ў часопісе *«Нёман» — расказ М. Сердзюкова* аб буднях Інстытута металапалімерных сістэм АН БССР («Вучоны ідзе на завод»), выступленне былога галоўнага інжынера вытворчага аб'яднання «Мінскі трактарны завод імя У. І. Леніна» І. Дземчанкі («Пара абнаўлення»), інтэрв'ю Э. Каспяровіча з начальнікам *Галоўпалессеводбуда* І. Цітовым («Суразмерна часу»).**

**Г. ІВАНЕЙ.**

---

# ЧАЧЭРСКАЯ МІНУЎШЧЫНА

**Не *так даўно выйшла* з друку брашура, прысвечаная аднаму з самых старажытных гарадоў на тэрыторыі рэспублікі— Чачэрску. «Помнікі Чачэрска»— так назвалі сваю працу Г. Жаровіна, І. Чарняўскі, І. Дзімура. Усе яны прымалі непасрэдны ўдзел у вывучэнні і захаванні помнікаў гісторыі і культуры, размешчаных на тэрыто*рыі горада, якія захаваў* амаль без змен даўнюю унікальную сістэму планіроўкі.**

**З канца XVIII стагоддзя да нашых дзён асноўнай гістарычнай дамінантай і своеасаблівай *кропкай для пазначэння* перасячэння ўсіх планіровачных ліній з'яўляецца будынак ратушы. Яго размяшчэнне, арыгінальнае вырашэнне фасадаў дазволіла аўтарам пасля доўгіх гісторыка-архіўных даследаванняў выказаць цікавую думку, што аўтарам перапланіроўкі горада ў 80-х гадах XVIII стагоддзя мог быць Васіль Бажэнаў, вядомы *архітэктар, адзін з блізкіх сяброў* графа Чарнышова, якому ў той час належаў Чачэрск. Зараз праводзіцца рэстаўрацыя былой ратушы, якую мяркуецца прыстасаваць пад гісторыка-*краязнаўчы музей.* Асновай яго экспазіцыі будуць археалагічныя знаходкі, знойдзеныя пад час вывучэння Замкавай гары — дзядзінца горада. (Доўгі час тут працавалі археолагі М. Ткачоў, І. Чарняўскі, У. Багамольнікаў). Некаторыя са знаходак пададзены ў колеры на вокладках брашуры. З іншых помнікаў у Чачэрску захаваліся арыгінальныя царква-ратонда XVIII стагоддзя, драўляная капліца на могілках (XIX ст.), будынак палаца (XIX ст.), рэшткі старога парку XVIII — XIX стагоддзяў. Пра ўсе гэтыя помнікі расказваецца ў працы. Ідзе ў ёй гаворка, вядома ж, і пра помнік загінуўшым воінам і партызанам, якія ўзвышаецца на Замкавай гары.**

**Варта адзначыць, што далейшае развіццё Чачэрска прадугледжвае захаванне багатай спадчыны горада, асабліва яго планіроўкі. *Старажытныя пабудовы* атрымаюць сучасныя функцыі ў новастворанам ансамблі, застануцца асноўнымі дамінантамі, што надаюць непаўторнае аблічча гэтаму гораду. Колішні парк разам з надпоплаўнай часткай ракі Чачоры ўтворыць зялёную зону адпачынку.**

**А. ТРУСАЎ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

Мікола РАКІТНЫ

# ПЕРШЫЯ ДНІ

**У выдавецтве «Мастацкая літаратура» завяршаецца падрыхтоўка унікальнага выдання — зборніка «Беларускія пісьменнікі — удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны». У ім прадстаўлены звыш 170 аўтараў.**

**Прапануем увазе чытача ўспаміны аднаго з аўтараў гэтай кнігі Міколы Ракітнага аб першых, суровых і трагічных днях вайны.**

пераход у прыгарад. Па пераходзе няспынна жывым патокам ішлі віцябчане ў гарадскі парк, дзе некалі ў выхадныя дні граў духавы аркестр, а ў святы рассыпаліся ў цёмным небе агні феерверкаў. Зусім блізка была Вакзальная вуліца. Чысценькая, утульная, без машын, яна да самага моста цераз Дзвіну запаўнялася вечарамі студэнцкай і рабочай моладдзю — шумнай, шырокаклёшнай, часцей у парусінавым белым абутку. А там, за мостам, злева — славутая Замкавая горка. І ўжо з болем уяўлялася там мая альма-матэр — мастацкае вучылішча. Што там цяпер? Канечне, вучоба. Ціхая, без гаманы, пры расчыненых вокнах аўдыторый. На перапынках, як часта было, стаяць на лесвічнай пляцоўцы паміж першым і другім паверхам мастакі-выкладчыкі: высокі, малады, у раскошнай часучовай пары весяльчак Іван Восіпавіч Ахрэмчык, падборысты, з рудым хахалком над ілбом Хрусталёў, нізенькі і лысы каўказскага тыпу Ходжас, крышку сутулы, але заўсёды імклівы Леў Маркавіч Лейтман. Іх суцішана і пачціва, як багоў, абцякаюць групкі-ручайкі выхаванцаў-студэнтаў... Ці давядзецца калі-небудзь вярнуцца туды?..

На шосты дзень нашага блукання гучыць каманда:

— Усім па месцах!

Цяпер паязды грымелі поўным ходам. Зноў вярталіся ў Оршу, а з яе ўзялі курс строга на захад. На Мінск.

У Мінск прыбылі позняй ноччу. Стаялі да світання. З дванаццаці ночы я дняваю па бронепляцоўцы. Мне ўжо вядома маё месца: замковы! Пры стральбе — адкрываць і закрываць замок гарматы.

На станцыі Уша, ужо ў ранішнім святле, мяне змяніў наводчык разліку — рослы, франтаваты слуцак Аляшкевіч. Калі пераходзіў з пляцоўкі ў вагон, я неяк спалохана і асірацела ўбачыў, што ні сорак пятага, ні сорак шостага ў нас ззаду ўжо не было. Напэўна, яшчэ з Мінска пайшлі абодва ў іншых і, відаць, розных кірунках. У вагоне было значна цяплей, чым у пляцоўцы, настылай за ноч холадам ад расы і ветру ў час руху. Скінуўшы толькі боты, забраўся на нары і адразу заснуў — як праваліўся. А прахапіўся... ад высокага, поўнага трывогі, голасу камандзіра браняпоезда лейтэнанта Клюева: «Вайна, таварышы байцы!..»

Куляй злятаю з нараў, ногі ў боты, хапаю рамень і саскокваю ўніз. Станцыя Маладзечна. Увесь асабовы састаў выстраены ўздоўж вагонаў. Усе слухалі прамову Молатава па радыё...

Вайна...

І ўраз усё змянілася, стала іншым. З заходняга боку неяк шалёна ляцяць таварнякі. За імі — вецер і пыл. Разгублена, у трывожнай мітусні закідаліся людзі хто куды. Адно далёкае, пранізліва-сіняе неба, здаецца, абыякава глядзіць на зямлю і няшчадна плавіць рэйкі палаюча-прамяністым сонцам.

І ўжо заканамерна, як непазбежнасць моманту, гучыць каманда:

— Снарады ў стэлажы!..

І пачалася работа — ваенная работа. «Паплылі» фугасныя, асколачныя на руках, «голыя» з вагонаў да бронепляцовак. Кулямётчыкі тут жа, на шпалах і ў расчыненых вагонах, зашалясцелі машынкамі-«мясарубкамі», набіваючы стужкі патронамі. А семафор ужо адкрыты. Сорак чацвёрты рушыў на захад.

Ён дайшоў да Ашмянаў. Тут таксама працягвалася тая ж работа па начынцы пляцовак боепрыпасамі. Дэсантнікі набівалі мяшкі пяскам, укладвалі іх па бартах платформаў. На адной з іх самотна стаяў паязны кухар, да якога і ў снеданне, і цяпер, у абед, рэдка хто падыходзіў.

Надвечар браняпоезд падаўся малым ходам назад — у Маладзечна. З гэтага дня ён падпарадкоўваўся загадам ваенных камендантаў. На падыходзе да станцыі ўжо ўбачылі першае разбойнае аблічча вайны: на горад, адначасова з трох бакоў, наляцелі чорным вараннём эскадрыллі самалётаў — і пасыпаліся бомбы на белыя, падрумяненыя вячэрнім сонцам у зеляніне дамы. Адбамбіліся і паляцелі. Горад гарэў усю ноч. Ноч — самая кароткая і самая страшная на ўсёй, здавалася, зямлі — была трывожная, але ціхая. А на досвітку паяўляюцца два бамбавозы. Ідуць над пуцямі: відаць, па «душу» браняпоезда, які, канечне ж, заўважылі ўчора. А ў ім ужо — каманда: «К бою!..» Грымяць першыя стрэлы. Па самалётах б'юць усе чатыры «сямідзесяцішасцёркі». Самалёты, сінхронна зламаўшы лёт, крута падаюць уніз. Поезд рыўком кідаецца пад піке — і бомбы рвуцца ў яго ззаду. Самалёты робяць яшчэ адзін заход — і ўсё паўтараецца.

Наводчык Аляшкевіч кляне панараму: яна дазваляе ўзняць ствол гарматы на трыццаць сем градусаў. Узняць вышэй — панарама выходзіць з візуальнага акна, і цэль знікае. І тут у нас здараецца горкае, недарэчнае ЧП, якое, магчыма, ні разу не паўтаралася за ўсю вайну... З паяўленнем самалётаў у нашу вежу ўскоквае лейтэнант Есьман, камандзір бронепляцоўкі: «Адстаўць панараму! Паспрабуем без яе...» Наводчык узнімае ствол. Есьман, прыпаўшы тварам да казённіка гарматы, ловіць па ёй цэль і падае каманду: «Вышэй, вышэй... яшчэ вышэй. Агонь!..» Клацае педаль спуску ўдарніка — і адкат ствала імгненна б'е ў лейтэнанта... Бомбы зноў падаюць ззаду.

Гэтае здарэнне ўсіх скаланула: не хапала яшчэ гэтакага!..

Браняпоезд ляціць да вакзала. Чакае з захаду чарговы пасажырскі састаў. І Есьмана на насілках адносяць у адзін з вагонаў... За гэтыя дні — аніякіх армейскіх нашых часцей. Рэдка праляталі на ўсход паязды. На трэці дзень раніцай пайшоў на ўсход і браняпоезд. Напэўна, каб зберагчы матэрыяльную частку. Але пад станцыяй Уша пуці ўжо былі разбітыя. Поезд вярнуўся ў Маладзечна. Кінуўся па чыгунцы ў кірунку на Полацк — там таксама ходу няма. І зноў — у Маладзечна. Адышоў у тупік — на затравянелыя, іржавыя рэйкі. Папаўзла чутка, што матэрыяльная частка рыхтуецца да ўзрыву. Але, ужо ў полудзень, вяртаецца з вакзала камандзір Клюеў і крычыць на бягу:

— Усім па месцах!..

Пакінуўшы базавыя вагоны, сорак чацвёрты ўсім ходам памчаўся на захад, на Юрацішкі. З задачай прарвацца праз Ліду на Баранавічы. У Юрацішках у нас ужо ні вугалю, ні вады ў тэндэры паравоза. Падагналі з пуцей «чорны» — цывільны — паравоз. Пачалі перапампоўваць з яго ваду, перакідваць вугаль патроннымі скрынкамі. У начальніка станцыі свая бяда: на пероне ў яго пятнаццаць бочак са спіртам.

— Забярыце, — просіць, моліць. Ну, хоць пяток вазьміце на платформы. Усё роўна дабро прападзе...

У Лідзе была ўжо ноч. Горад дыміўся пажарамі. Віселі над ім парашутныя ліхтары. На станцыі — ні душы. А трэба было перавесці стрэлку на баранавіцкі пуць. Клюеў са сваёй камандзірскай рубкі «нырае» ў вакзал. Выводзіць аднаго-адзінага чыгуначніка і строга загадвае яму перавесці стрэлкі куды трэба. Папярэдзіў, што забярэ яго з сабой. І так і зрабіў. На станцыі Баранавічы папрасіў у чыгуначніка прабачэння: вайна!..

Тут быў сонечны, ціхі і бязлюдны ранак. На пероне — два салдаты. Просяцца ў браняпоезд: адзін кулямётчык, другі стралок. Дабіраюцца з Пружанаў — часць іх разбіта. Клюеў пакрычаў на іх, але пагадзіўся ўзяць: стралка ў дэсант, а кулямётчыка па прозвішчы Мануйлін, у нашу вежу. Наш кулямётчык не вярнуўся, калі адносіў на насілках Есьмана ў пасажырскі поезд. Магчыма, не паспеў выйсці з вагона.

Уперадзе ў нас былі Пагарэльцы. Тут надоўга здарылася затрымка: якраз на пуці браняпоезда гарэлі вагоны і платформы таварняка, разбітага, відаць, яшчэ ўчора вечарам. Агонь падбіраўся да платформаў з аўтамашынамі-палутаркамі. А гарэлі вагоны з армейскім абмундзіраваннем. Курэлі дымам цюкі гімнасцёрак, сініх дыяганалевых шаравараў. Шпалы ўсыпаны новенькімі фуражкамі з чорнымі і зялёнымі аколышамі. Блішчэлі на сонцы лакіраванымі казыркамі і чырвонымі зоркамі... Вясковы дзядок ад'язджаў адсюль возам, відаць, з гэтым дабром. А на полі, кіруючыся сюды, круціў над галавою лейцамі расхрыстаны, белагаловы падлетак. Убачыўшы браняпоезд, шмыгнуў з канём за пагорак...

Інакшага выйсця не было, як перавесці далёка ззаду таварняка стрэлкі і доўгі час адкатваць платформы і вагоны на суседні пуць.

Ад Пагарэльцаў да Стоўбцаў двойчы гучала каманда «Выходзь!» — нападалі самалёты. У Стоўбцы прыбылі далёка за абедзенны час. Машыніст шумна выпусціў пару, прыпыніўшы поезд каля самага вакзала.

З паўаддзялення дэсантнікаў адразу пайшло ў горад — узяць у пякарні хлеба; на платформе ёсць кансервы, ёмістая квадратная бляшанка шмальцу, вада ў тэндэры.

З вакзала выходзяць два камандзіры. Маёр і падпалкоўнік. У фуражках з алымі аколышамі ўнутраных войск. Выклікаюць камандзіра браняпоезда. Лейтэнант Клюеў падбягае да іх. Хвіліна ціхай размовы — як старшых з малодшымі па званні, — і камандзіры вяртаюцца ў памяшканне вакзала. Клюеў, заклапочаны і сумнаваты — да свайго поезда. У гэты момант адзін з байцоў, абышоўшы вакол вакзала, радасна ўскліквае:

— Братцы! Жывём... Тут яшчэ адзін браняпоезд!

Сапраўды, на пуцях, якія тут былі і па другі бок вакзала, стаяў браняпоезд. Але гэта быў нейкі дзіўны браняпоезд. Стаяў без платформаў, пакрыты зверху камуфляжнай сеткай з бурымі і зялёнымі нашытымі лапінамі. І ніякага знаку, што ў ім ёсць нехта жывы.

Усе мы абрадаваліся — таму што яшчэ не бачылі за гэтыя дні ніводнага свайго, хоць малога, баявога падраздзялення. А цяпер былі расчараваныя: калі што якое, дык ці можна чакаць ад яго дапамогі?..

А з неба над Стоўбцамі, з кароткімі перапынкамі, валіўся на зямлю ныючы, са стогнам, гул: вялізнымі статкамі, высока чорнымі на сінім фоне, паволі плылі на ўсход бамбавозы. Браняпоезд іх не цікавіў: яны ішлі ў нашы глыбокія тылы.

Увечары, ужо ў лёгкім змроку, ля поезда пастраенне. Клюеў, хоць і суровы, але спакойны:

— Ёсць даныя, што вораг на світанні, а магчыма, і ноччу, будзе тут. Танкі і мотапяхота... Заняць свае месцы....

Усю кароткую чэрвеньскую ноч браняпоезд патруляваў участак з высокім насыпам дарогі — ад вакзала да чыгуначнага моста цераз Нёман. Непадалёку, ніжэй па рацэ, быў яшчэ адзін мост — драўляны, на вузкай шашэйцы.

Разлік нашай вежы, заняўшы свае месцы, стаяў вакол гарматы. Мануйлін, пакінуўшы на момант высокае «сядло» кулямётчыка, з жалем расказвае: брат яго — курсант ваеннага вучылішча ў Брэсце. Яго ўжо, напэўна, няма. Як перажыве гэта маці... Аглядваецца назад і ўскліквае: «Во, пабачце, што робяць! Цю-цю, падлакоўнікі!..» Таямнічы браняпоезд «выплыў» з-за вакзала і паціху падаўся на Мінск...

Пачало ўжо развідняцца, калі пачуўся дзярлівы гук «равуна» — сувязі паміж пляцоўкамі. Сігнал: падрыхтавацца!.. Здалёк пачуўся густы, напружаны гуд. Камандзір гарматы Судкоў, — ён быў цяпер, пасля Есьмана, і камандзірам пляцоўкі, — прыслухаўся і крыкнуў: — «Авіяцыя». Але, прыпаўшы да свайго камандзірскага акенца, падае каманду: «Адставіць «авіяцыя». За мостам на шашы танкі!.. Агонь! Беглымі!..» І абедзве пляцоўкі загаманілі! Пасля пяці-шасці стрэлаў Судкоў ярасна крычыць: «Дым! Гарыць!..» Замковы — як маятнік: туды-сюды. Кулямёт Мануйліна не змаўкае. Ён у мяне за спіной. Б'е ў адным кірунку, а калі крыху зменіць яго — локаць Мануйліна таўчэ мне ў спіну, быццам у яго не кулямёт, а пнеўматычны бур... Колькі выпушчана снарадаў — пятнаццаць, дваццаць?.. І тут тое, чаго і можна было чакаць: у вежу з громам і бляскам на міг улятае віхор чырвонага агню і святла. Перад тым, як паляцець некуды, краем вока заўважыў у гэтым святле цёмны сілуэт Мануйліна, які павольна адкідваецца назад з узнятымі ўгору рукамі...

...Апрытомнеў я, відаць, ад пагойдвання, а потым і ціхага грукату браняпоезда па рэйках. Расплюшчыўшы вочы, зразумеў, што я — пад палком гарматы, у «яме». Воддаль ад мяне, у куце гэтай жа «ямы» стогне зараджальшчык. Светла: значыць, ужо дзень. Не адразу сабраўшыся з сіламі, чапляюся за палок, падцягваюся — паглядзець, што там, наверсе, у вежы. Ля стойкі, пад вуглямерам, сядзіць падавальшчык, абхапіўшы галаву рукамі. Ён тут адзін, з жывых...

З глыбіні пляцоўкі чуваць голас санітара: «Каму дапамогу?..» Прабіраецца ў вежу. Памагае выбрацца наверх, ужо напрактыкавана робіць «сапраўдныя» перавязкі. Лаецца: — «Сволачы... Нарабілі работы... — І як бы супакойвае: — Нічога, ужо Негарэлае блізка».

Сорак чацвёрты ўсё далей адыходзіў ад Стоўбцаў. У бронепляцоўках было дзесяць прабоін. З чатырох гармат уцалела адна. На шчасце, толькі паравоз трымаўся «малайцом» — ні адной драпіны на зялёнай брані.

Праз суткі, ужо за Смаленскам, пахавалі сваіх баявых таварышаў. Хавалі на ўзгорку, каля скрыжавання дзвюх дарог — шашы і чыгункі. Развіталіся з імі доўгім гудком паравоза. І пайшоў поезд на Рослаўль, кіруючыся на сваю выхадную пазіцыю — на станцыю Першага асобнага дывізіёна бронепаяздоў. Ля вежавага люка мы сталі ўтрох — трое з шасці. Нікому не хацелася аглядвацца ў вежу, назад: люлька ў гарматы была скарэжана, сінела жывым ірваным металам. А там, дзе ўсе гэтыя дні варанёна пабліскваў вежавы кулямёт, на добрую чвэрць зяяла дзірка ў пагнутай брані: немец спрытна выбіў кулямёт разам з шаравой устаноўкай. Ён на сваім палігоне з усёй упартай настойлівасцю муштраваў і сябе, і свой танк, каб з еўрапейскіх дарог дабрацца да гэтых невядомых яму беларускіх Стоўбцаў. А лейтэнант Есьман — не даехаў. І наводчык Аляшкевіч — ловячы ў скрыжаванне панарамы мішэнь на стрэльбішчах у Карачаве, ён, відаць, верыў і не верыў, што гэты немец пакоціць на ўсход і дабярэцца да яго гарадка на Нёмане...

18 ліпеня сорак чацвёрты, атрымаўшы новую матэрыяльную частку, падаўся са сваёй станцыі на Гомельскі кірунак.

Наперадзе была яшчэ ўся вайна.

ТЭАТР

# ЧЫМ ЗДЗІВІЦЬ МАСКВУ

**Спектаклі Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы ў люстэрку крытыкі**

Сапраўды, чым здзівіць тэатральную сталіцу? І ці магчыма такое ўвогуле, пяецца ж — «Москва видала всякое...» Тэатры, тэатры, «трыццаць пяць тысяч» тэатраў...

Сёлета ў шматгалоссі маскоўскага культурнага жыцця бралі сваю «ноту» купалаўцы. Іх пачулі, гэта бясспрэчна. Таму, напэўна, што тэатр з Беларусі, нягледзячы на пятнаццацігадовы перапынак з часу апошніх гастроляў у сталіцы, карыстаецца досыць высокай рэпутацыяй. Таму, мабыць, што афіша творчага калектыву калі не здзівіла, дык, безумоўна, зацікавіла масквічоў. Прычым, захоўваючы «кампактнасць», была разлічана на розныя густы. Шэкспіраўская «Бура», напрыклад, сабрала ў глядзельнай зале «вышэйшы свет» тэатральнай грамадскасці, а вось аншлаг «Мудрамеру» забяспечыла публіка «дэмакратычная».

І ўсё ж... «Навошта сёння, калі ўжо не трэба ніякіх парадных лічбаў, святочных справаздач дзеля «птушачкі», тэатр прыязджае на гастролі ў Маскву?» — пытаецца на старонках «Советской культуры» І. Вішнеўская. Пытаецца і яшчэ раз, ужо амаль адказваючы: «Што ж было гэтай ягонай непаўторнасцю, ягонай сілай, што дазволіла менавіта гэтаму, няхай сабе і славутаму калектыву не па старых заслугах, не па заслужанай пашане ўсхваляваць нашы сэрцы?».

Прынамсі, словы, нават самыя гучныя, у сваёй «зацёртасці» не вінаватыя. І як бы там ні было, але, выпраўляючы свой тэатр у сталіцу, мы з нецярпеннем чакаем ацэнкі ягонага мастацтва. «Ну як там купалаўцы?» — з такім пытаннем часцей за ўсё звярталіся да мяне знаёмыя на мінулым тыдні, калі даведваліся, што я па заданні рэдакцыі пабываў у Маскве.

Міністэрства культуры СССР і Саюз тэатральных дзеячаў наладзілі абмеркаванне творчых вынікаў гастроляў Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Падобныя сустрэчы карысныя сутыкненнем розных думак, здабыткі і пралікі асобнага калектыву аналізуюцца тут на шырокім фоне агульнатэатральнага працэсу. У гаворцы, якую вёў першы намеснік міністра культуры М. А. Грыбанаў, удзельнічалі вядомыя крытыкі і тэатразнаўцы І. Вішнеўская, Н. Пераберына, А. Сцяпанава і А. Смялянскі.

Спецыялісты былі аднадушныя, адзначаючы, што купалаўскі тэатр сёння — жывы, цікавы і самабытны творчы арганізм, які па праву займае месца сярод лідзіруючых сцэнічных калектываў краіны. Галоўнае багацце — акцёрская трупа, якой па сілах самыя адказныя і сур'ёзныя творчыя задачы. Спектаклі купалаўцаў, пазначаныя аўтарствам рэжысёра-лідэра, якім не фармальна з'яўляецца В. Раеўскі, вылучаюцца, як правіла, высокай пастановачнай культурай, схіляюцца да маштабнасці, эпічнасці, значных абагульненняў. Тэатр ведае, «у імя чаго» штовечар склікае гледачоў, ягонае мастацтва прасякнута актыўным сацыяльным тэмпераментам, што выяўляецца ў рэпертуарных пошуках. Адметнасць гастрольнай афішы — новыя для Масквы імёны і назвы, якія сведчаць пра цікавыя працэсы ў беларускай драматургіі.

Абмеркаванне праходзіла ў атмасферы добразычлівай, але не сказаць каб лагоднай і паблажлівай. Не засталіся па-за ўвагай крытыкаў і слабыя бакі творчасці тэатра. Добрыя памкненні на практыцы не заўсёды належным чынам «забяспечваюцца» перакана ўчай літаратурай, акцёрскімі і рэжысёрскімі работамі. У прыватнасці, А. Смялянскі так акрэсліў галоўную, на яго думку, супярэчлівасць цяперашняга перыяду ў жыцці купалаўцаў — перапад, часам досыць адчувальны, мастацкіх задач, якія ставіць перад сабой калектыў, то беручы сапраўдную вагу, то жангліруючы кардоннымі, бутафорскімі гірамі.

У выступленнях адзначалася ўласцівая некаторым пастаноўкам фармальнасць акцёрскага існавання, нераспрацаванасць рэжысёрскіх трактовак «на чалавечым узроўні». Выказваліся пажаданні больш смелых сцэнічных шуканняў — дзеля заўтрашняй мабільнасці і гнуткасці тэатра, багацця і разнастайнасці ягонай мовы.

...Ёсць у спартыўным лексіконе выраз «перамога па ачках». У мастацтве лічыць балы і ачкі, «нейтралізаваць» плюсы мінусамі — справа марная, хоць, магчыма, некаму і такі занятак па душы. Існуюць больш тэатральныя «тэрміны» — напрыклад, поспех. Яго, думаецца, і зведалі купалаўцы ў выніку двухтыднёвых гастроляў у Маскве. А праблемы, вядома ж, застаюцца. Дарэчы, і такія, што незаўважныя для староннягa, няхай сабе свежага і пільнага позірку. На тое яны і праблемы...

**А. ГАНЧАРОЎ,**
**спецкарэспандэнт**
**«Літаратуры і мастацтва».**

# «ПЕСНЯРЫ» — ПЕСНЯРУ

**Шырока вядомы ў краіне Беларускі дзяржаўны эстрадны ансамбль «Песняры» працуе над новым цыклам песень на вершы Янкі Купалы. Верны сваім мастацкім прынцыпам у асваенні і папулярызацыі лепшых традыцый беларускай музычнай культуры, народны артыст рэспублікі, кампазітар У. Мулявін зноў звярнуўся да творчасці народнага песняра. Прыхільнікі эстраднага мастацтва «Песняроў» памятаюць выкананыя імі раней музычныя праграмы «Янка Купала», «Курган», «Песня пра долю», «Гусляр», створаныя на аснове творчай спадчыны класіка беларускай літаратуры.**

**Прэм'ера новай праграмы адбудзецца 12 ліпеня г. г. у Вязынцы на рэспубліканскім свяце паэзіі, прысвечаным 70-годдзю Вялікага Кастрычніка і 105 гадавіне з дня нараджэння Янкі Купалы.**

**В. ЛУК'ЯНОВІЧ.**

НА МУЗЫЧНАЙ СЦЭНЕ

# ПРАВЕРАНА ЧАСАМ

**Балет «АЛЬПІЙСКАЯ БАЛАДА»: 20 гадоў жыцця**

...ПРЫ ПОЎНАЙ цішыні залы замірае апошні акорд. Напружаная паўза, і раптам — гром апладысментаў. Тым з нас, хто бываў на спектаклях «Альпійскай балады», вядомы гэты стан: адчуваеш сябе там — у страшным і цудоўным свеце спектакля — і не адразу вяртаешся ў рэальную абстаноўку глядзельнай залы.

Для нас ужо даўно стала звыклым, што «Альпійская балада» — гонар нацыянальнага музычна-сцэнічнага рэпертуару. Што ўжо не адно пакаленне гледачоў на гэтым спектаклі не проста «глядзіць балет», а ўсёй душой перажывае кароткую і цудоўную трагедыю кахання і смерці. Што «Альпійская балада» Я. Глебава стаіць поруч з аповесцямі В. Быкава, з цыклам карцін «Лічбы на сэрцы» М. Савіцкага, з «Хатынскай аповесцю» А. Адамовіча і фільмам «Ідзі і глядзі», з тымі творамі сучаснага беларускага мастацтва, звернутымі да тэмы Вялікай Айчыннай вайны, якія сталі не толькі нацыянальным здабыткам, але і набылі інтэрнацыянальнае, агульначалавечае значэнне.



Першыя выканаўцы «Альпійскай балады» — народная артыстка БССР К. Малышава (Джулія) і заслужаны артыст рэспублікі Л. Чахоўскі (Іван).
Фота Ул. КРУКА.

У балета Я. Глебава «Альпійская балада» адметны лёс. Дваццаць гадоў яго жыцця на сцэне Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР — гэта праверка часам перш за ўсё на праўдзівасць. У рэшце рэшт, нішто не можа штучна прадоўжыць жыццё сцэнічнаму твору, калі ён сам не зойме дастойнае месца ў рэпертуары, не стане ў адну шарэнгу з выпрабаванай гісторыяй опернай і балетнай класікай. Гэта аксіёма, якую толькі пацвярджаюць шматлікія пастаноўкі сучасных опер і балетаў і гэткія ж шматлікія знікненні іх з рэпертуару. Сезон-другі — і спектакля няма на афішах; такі лёс большасці оперных і балетных пастановак сучаснай тэматыкі. А спектакль «Альпійская балада», які недасведчаныя гледачы лічаць новай пастаноўкай да 40-годдзя Перамогі (чула такія меркаванні), адзначыць сёлета ў ліпені, у дні традыцыйных урачыстасцей з нагоды вызвалення Мінска, сваё дваццацігоддзе. Для балета сучаснай тэматыкі факт унікальны.

...1967 год. Свет быкаўскіх герояў настойліва заваёўваў свайго чытача. Складаны быў шлях праўды пра вайну ў мастацтве,— праз несправядлівую, вульгарную крытыку, праз прымітыўны чыноўні страх перад праўдай. Цяпер цяжка сабе нават уявіць, што ў сярэдзіне 60-ых зварот да прозы В. Быкава для стваральнікаў балета быў не толькі дзёрзкай творчай ідэяй, а і актам грамадзянскай мужнасці. У гісторыі стварэння балета непадзельныя творчае натхненне аўтараў, апантанасць і самааддача выканаўцаў і — цяжкі, доўгі шлях іх работы праз бясконцыя прагляды, здачы, пера-

КАНЦЭРТНАЯ МАЗАІКА

# У ЗАЛЕ ФІЛАРМОНІІ — АНШЛАГ

Свята адчувалася па настроі слухачоў, па іх размовах — размовы тычыліся маючай адбыцца сустрэчы з выдатным творчым калектывам, хорам Беларускага тэлебачання і радыё пад кіраўніцтвам Віктара Роўды... А пасля гэтага канцэрта, што адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, публіка разыходзілася неахвотна. Раўнадушных не было. Высокае прафесійнае майстэрства выканаўцаў, сапраўднае мастацтва заўсёды знаходзяць жывы водгук у людзей, прыўзнімаюць іх над будзённасцю, даюць спажыву для роздуму, ачышчаюць душу.

Хор радыё мае характэрнае аблічча: сапраўдны акадэмізм, адухоўленасць, высакародны мастацкі густ, асэнсаванасць выканання і дасканаласць формы. Гэты хор — яркая калектыўная творчая асоба, якая абапіраецца на лепшыя айчынныя харавыя традыцыі, за што карыстаецца пашанай у прыхільнікаў мастацтва. І яшчэ. Работа на тэлебачанні і радыё вымагае шырокага выканаўчага дыяпазону, асаблівай мабільнасці, аператыўнасці.

Па традыцыі праграма пачынаецца творам, які ўслаўляе партыю, Радзіму, наш народ-працаўнік. Рэцэнзуемы канцэрт адкрыўся новым хорам Ю. Семянякі на вершы Г. Бураўкіна «Край мой». Пэўную цікавасць выклікаў у слухачоў твор маладога беларускага кампазітара В. Кузняцова на вершы М. Танка «Хатынскія бярозы». Прынёс сапраўднае мастацкае задавальненне «Партызанскі вальс» У. Алоўнікава на вершы А. Казлоўскай. Яркі меладызм, багатая харавая фактура, глыбокае веданне прынцыпаў харавога пісьма, мудрая прастата, шчырасць і непасрэднасць, з якімі хор выконваў гэты твор, вылучалі яго сярод іншых нумароў праграмы. «Пад заслону» першага аддзялення прагучаў харавы канцэрт «Рускае вяселле» маскоўскага кампазітара А. Кісялёва. Канцэрт для змешанага хору а капэла на словы народных паэтаў складаецца з сямі частак і напісаны ў лепшых традыцыях рускай харавой музыкі: яркасць вобразаў, пранікнёнасць і багацце меладычнай мовы, чароўная арыгінальная гармонія, сталае лагічнае развіццё музычнага матэрыялу, народнасць духу, высокі прафесіяналізм. Хор выканаў усе сем частак як бы на адным дыханні, па-майстэрску, з пэўнай доляй тэатралізацыі. Тэатралізацыі не знешняй, калі кіраўнікі клапоцяцца пра атрыбуты сцэнічнага дзеяння (мізансцэны, бутафорыю і г. д.), а тэатралізацыі ўнутранай, калі дзеянне разгортваецца ў змесце самой музыкі. Адзначу і салістаў хору: Любоў Каспорскую, Міхаіла Рысава.

У другім аддзяленні канцэрта прагучалі пяць музычных фрэсак, хоралаў розных кампазітараў, пад аднолькавай назвай — «Ave Maria»: твор Л. Луці (пералажэнне для хору Э. Тырманд), «Ave Maria» А. Брукнера; Г. Даніцэці. Найбольш уразілі творы з такой назвай Дж. Качыні (апрацоўка А. Янчанкі) і А. Фляркоўскага. Калі твору Дж. Качыні ўласціва пышнае, багатае поліфанічнае гучанне гімнічнага характару (такія сачыненні выкарыстоўва-

# КАБ ЭНТУЗІЯЗМ НЕ БЫЎ ПРЫВАТНЫМ

**Некалькі думак на падставе чытацкай пошты**

УЖО 20 ГАДОЎ існуе ў нас грамадская арганізацыя, створаная для шырокага клопату пра спадчыну,— Беларускае Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры. Прысвечаны яму артыкул энцыклапедыі даводзіць, што Таварыства «садзейнічае дзяржаўным органам у ахове, выяўленні, вывучэнні, уліку помнікаў гістарычных, археалагічных, архітэктурных, гісторыі тэхнікі і ваеннай справы, мастацтва і пісьменнасці, этнаграфічных. Мае секцыі гісторыі, археалогіі, архітэктуры... маладзёжную. На 1 студзеня 1979 года аб'ядноўвала больш як 11 тысяч пярвічных арганізацый, 1 мільён 722,5 тысячы індывідуальных членаў». Апошнія лічбы ўжо не адпавядаюць рэальнасці. Як было абвешчана на II пленуме Рэспубліканскага Савета Таварыства, пра які «ЛіМ» інфармаваў чытача ў нумары за 12 чэрвеня, зараз у ягоных радах 2 мільёны 458 тысяч індывідуальных членаў. Лічба, трэба сказаць, астранамічная, уявіць яе цяжка. У перакладзе на больш зразумелыя вобразы яна азначае, што кожны чацвёрты жыхар Беларусі — член Таварыства аховы. Калі жыве, скажам, у мястэчку чатыры тысячы чалавек, дык тысяча з іх— члены Таварыства. Выяўляюць і ахоўваюць!

І вось пры такой сіле, якая, здаецца, горы можа пераносіць з месца на месца, колькі ў нас нявырашанага з гістарычнай матэрыяльнай спадчынай, якія прыкрыя здараюцца ў нас страты помнікаў, як недаравальна адкладаем мы на заўтра тое, што павінны былі зрабіць яшчэ пяць ці дзесяць гадоў назад, зрабіць сёння.

У якіх жа формах выкарыстоўваецца магутны патэнцыял Таварыства? Зразумела, што адрэстаўрыраваць за кароткі час тысячы помнікаў немагчыма. Але немагчыма зразумець, чаму яны наогул стаяць без прыгляду, з дзіравымі дахамі, з выбітымі вокнамі, сарванымі дзвярамі. Не трэба спецыяльнай дакументацыі, планаў, узгадненняў, каб залатаць дах, забіць дошкамі вокны, добраўпарадкаваць навакольную тэрыторыю. Гэта лёгка зробяць энтузіясты, у тым, вядома, выпадку, калі ісці насустрач іх добрай волі. Вось, у якасці прыкладу, ліст, дасланы ў рэдакцыю з Оршы будаўніком А. Сярожкіным і мантажнікам А. Шынкевічам.

**«У нашым горадзе, — пішуць яны,— знаходзіцца выдатны помнік беларускай культуры XVII стагоддзя — Куцеінскі манастыр, дзе па 1654 год існавала знакамітая друкарня. Тут было выдадзена 20 кніг кірыліцкага друку, сярод іх—«Азбука» С. Собаля. Колькі ўжо год вядуцца размовы пра зберажэнне гэтага помніка, але практычна нічога не робіцца. Больш таго, ёсць адказныя асобы, якія сцвярджаюць, што Орша помнікаў дойлідства наогул не мае. Ці не з гэтай прычыны ўжо зніклі будынкі царквы XIV стагоддзя, манастыра базільянаў, калегіума. Зведаў пэўныя страты і Куцеінскі манастыр. Але да гэтага часу стаяць яшчэ некранутымі Святадухаўская царква, жылы манастырскі будынак, рэшткі сцяны. Карацей, захаваўся комплекс. Тут можна зрабіць музеі Куцеінскай друкарні, аршанскай кафлі і музей тэхнікі (дарэчы сказаць, каля Оршы, у Дуброўне, была ў XVIII стагоддзі першая ў нас гадзіннікавая мануфактура). Было б што паказаць людзям. Людзі сюды прыходзяць і сёння. Але, акрамя суму і сораму за такую нядбайнасць ды яшчэ пачуцця нейкай безнадзейнасці, нічога іншага адсюль не выносяць... У 1985 годзе нам адказвалі з Таварыства аховы, што Куцеінскі манастыр уключаны ў план рэстаўрацыі на 1986 год. Аказалася, гэтыя словы былі адпіскай. На пачатку верасня 1985 года мы звярталіся ў гарвыканком з прапановай зрабіць уласнымі сіламі рамонт даху на Святадухаўскай царкве. Нас уважліва выслухалі, падзякавалі за клопат і сказалі скласці спіс патрэбных матэрыялаў. Узрадаваліся, склалі, аднеслі, а потым пачаліся ўдакладненні, у спісе нешта выкрэслівалі, нешта мянялі, і так цягнулася да зімы. Вясной мы зноў узнялі пытанне, але на гэты раз нам сказалі, што дах — не наша справа, ёсць для гэтага гісторыкі і рэстаўратары. Апошнія ж сцвярджаюць, што важкі ўклад у ахову помнікаў павінны ўносіць мясцовыя ўлады... У нас знойдзецца шмат людзей, якія не адмовяцца ў свой вольны час папрацаваць для адраджэння помніка. Ды як гэта зрабіць?»**

Аршанскі самадзейны клуб аматараў гісторыі, ад імя якога пісалі рабочыя А. Сярожкін і А. Шынкевіч, не адзінае згуртаванне, гатовае працаваць на рэстаўрацыі помнікаў мінуўшчыны бясплатна. Можна прыгадаць мінскі маладзёжны клуб, які добра зарэкамендаваў сябе на будоўлі Траецкага прадмесця, гродзенскую «Паходню». Здавалася б, абвешчаная пры Таварыстве маладзёжная секцыя зацікаўлена ўзяць пад сваю эгіду ўсіх маладых энтузіястаў, кіраваць імі, запрашаць да ўдзелу ў канкрэтных справах. Ды, на жаль, маладзёжнай секцыі практычна няма, гурткі аматараў гісторыі і культуры ўтвараюцца незалежна ад Таварыства, існуюць як бы прыватным чынам. Арганізацыі Таварыства не цікавяцца гэтай моладдзю, адпаведна яна не цікавіцца гэтымі арганізацыямі, не давярае ім, бо дзесяцігоддзямі не бачыла ад іх канкрэтнай справы.

Іншы ракурс гэтага пытання асвятляе ліст байцоў будаўнічага атрада «Нашчадкі» Мінскага педагагічнага інстытута.

**«Наш атрад існуе пяць год,— паведамляецца ў лісце.— Увесь гэты час мы працавалі на пляцоўках Музея народнай архітэктуры і быту на Пцічы. Наш атрад быў арганізаваны як камуністычны — бязвыплатнай працы. Зробленыя грошы пералічвалі ці ў фонд Музея архітэктуры, ці дзіцячаму дому ў Жодзіне. Летась на сходзе атрада вырашылі пералічыць свой заробак у Кушлянскі музей-сядзібу Францішка Багушэвіча. Было спадзяванне, што нашы сродкі (1000 рублёў), хай гэта і невялікая сума, прыдадуцца на паляпшэнне стану музея. Але ён не мае свайго рахунку, і мы пералічылі грошы на рахунак аддзела культуры Смаргонскага райвыканкома. Было б добра, каб існаваў мэтавы фонд па ахове помнікаў, які б улічваў пажаданні канкрэтнага выкарыстання пералічаных сродкаў. І каб нумар гэтага рахунку шырока прапагандаваўся. Упэўнены, што адгукнуцца і іншыя студэнцкія атрады, арганізацыі, прыватныя асобы».**

Пра становішча з мемарыялам Багушэвіча «ЛіМ» пісаў неаднойчы. Неаднойчы друкаваў і адказы адпаведных устаноў. Апошні адказ, змешчаны ў нумары за 30 студзеня гэтага года, абяцаў пачаць рэстаўрацыйныя работы не пазней 1987 г. (тэрмін не акрэслены). А пакуль што тую тысячу, якую пералічылі «Нашчадкі», узяўся выкарыстаць для ахоўных работ у Кушлянах мясцовы калгас.

Што тычыцца мэтавага рахунку, дык тут, як растлумачылі ў Рэспубліканскім Савеце Таварыства, справа не зусім простая. Таварыства мае рахунак фонду помнікаў, на які кожны жадаючы можа пералічыць грошы. Нумар гэтага рахунка 700345. Ёсць адпаведныя рахункі і ў абласных аддзяленнях Таварыства. Але сродкі, абумоўленыя канкрэтным адрасам выкарыстання, Таварыства не прымае, іх вяртаюць дарыцелю. Напрыклад, калі нехта пералічыў сёння 500 рублёў на рэстаўрацыю касцёльнага будынка ў Ішкальдзі, дык заўтра ён атрымае грошы назад. Трэба дадаць, што за апошні час пералічэнні ў фонд помнікаў паменшыліся са 150 да 76 тысяч, паколькі шмат хто пачаў пералічваць сродкі ў Фонд культуры, які шырока прапагандуецца. Да таго ж Таварыства не выкарыстоўвае ўласныя сродкі, што, вядома, адмоўна адбіваецца на яго аўтарытэце.

У мностве чытацкіх пісьмаў задаецца пытанне, чаму не ствараюцца музеі ў такіх былых культурных і адміністрацыйных цэнтрах, як Нясвіж і Навагрудак, чаму няма музеяў К. Каліноўскага, С. Буднага, У. Сыракомлі, В. Дуніна-Марцінкевіча, чаму амаль нідзе ў існуючых краязнаўчых музеях не адлюстроўваюцца падзеі рэгіянальнай мінуўшчыны, не падкрэсліваюцца вартасці мясцовых помнікаў.

Стварыць музей—праца шматгадовая, але нам нестае і сціплых экспазіцый, грамадскіх краязнаўчых музеяў, якія сплочвалі б вакол сябе энтузіястаў. Цікавае ў гэтых адносінах пісьмо рабочых аднаго з маладзечанскіх прадпрыемстваў.

**Яны пішуць, што ў іхнім інтэрнаце існуе з 1983 года клуб «Вязынка», ініцыятарам стварэння якога і кіраўніком стаў токар Міхась Казлоўскі. Ён пачаў выпускаць рукапісны альманах (зараз выйшла ўжо 25 нумароў), які многіх зацікавіў, вакол яго склаўся гурток аматараў роднай культуры. Старшая выхавацелька інтэрната Р. Чарнаброўкіна і камендант В. Палонская знайшлі памяшканне. Шафёр У. Масевіч, слесар М. Пруднікаў, слесар С. Косік, фрэзероўшчык І. Гарэлік, зборшчыца А. Баравікова ўласнымі рукамі аформілі пакой, які атрымаў назву «Хатка». У чэрвені 1983 года тут адбыўся першы вечар, прысвечаны паэзіі Максіма Багдановіча. Намаганнямі клуба была створана гасцёўня імя Язэпа Драздовіча, дзе сабрана вялікая колькасць карцін мастакоў Маладзечна. Члены клуба выпусцілі значкі, прысвечаныя Я. Драздовічу і У. Караткевічу, агульнымі намаганнямі сабралі багата экспанатаў, што апавядаюць пра жыццё і творчасць нашага выдатнага пісьменніка. Далей у лісце апавядаецца пра вандроўкі па гістарычных мясцінах Беларусі, пра навагоднія вечары, на якіх Дзед Мароз і Снягурачка вядуць праграму ў народным духу, пра асветніцкую дзейнасць «Вязынкі» сярод жыхароў інтэрната і пра кантакты з Таварыствам кнігалюбаў.**

Перад намі нячасты выпадак актыўнай пазіцыі энтузіястаў, паразумення паміж кіраўніцтвам завода, інтэрната і гуртком аматараў, якія прысвячаюць вольны час вывучэнню і прапагандзе роднай культуры. Але гасцёўні імя Я. Драздовіча і У. Караткевіча на пятым і шостым паверхах інтэрната ўсё ж уяўляюць сабой «установы» лакальнага характару. Гэта — прыватная ініцыятыва гуртка рабочых. Можа спатрэбіцца дваццаць год працы, каб за гасцёўнямі была прызнана культурная вартасць, як быў нададзены музейны статус літаратурнай і этнаграфічнай экспазіцыям, створаным энтузіястам А. М. Белакозам у вёсцы Гудзевічы.

Але калі члены самадзейных клубаў і гурткоў у час сваіх вандровак па родным краі пачынаюць непакоіцца пра лёс гінучых помнікаў, прапаноўваць сваю дапамогу, дык тут іх успрымаюць без энтузіязму. Бо каб моладзь мела нешта зрабіць, патрэбен план на працу, забеспячэнне матэрыяламі. І вось узнікае канфлікт паміж прыватным энтузіязмам і магчымасцямі службы культуры і аховы. Не хапае матэрыялаў, цяжка знайсці заказчыка, яшчэ цяжэй — падрадчыка і да таго падобнае. З гэтай прычыны прыватны энтузіяст, які ходзіць па аддзелах культуры і саветах Таварыства з патрабаваннямі зберагчы стары млын, ці трохсотгадовай даўнасці будынак, ці ўзор кавальскага майстэрства, мае мала шанцаў на ажыццяўленне сваіх прапаноў. Наадварот, ён бачыць, што іх не прымаюць у разлік. Напрыклад, у Мінску на рагу вуліц К. Маркса і Валадарскага стаіць будынак, дзе ў 1917 годзе была рабочая міліцыя, якую ўзначальваў М. В. Фрунзе. Колькі ўжо пісалі пра неабходнасць стварыць тут мемарыяльны пакой. Ды ўсё не даходзяць рукі. Затое «аздобіць» на гэтым будынку бляшанымі лістамі балконныя агароджы — помнік прыкладнога мастацтва пачатку стагоддзя — знайшліся і сродкі, і рукі, і жаданне. І ніхто не спытаўся ў 400 тысяч мінскіх членаў Таварыства аховы, ці згодныя яны на такую мадэрнізацыю? І каму з нязгодных на гэта скардзіцца, калі «ўпрыгожаны» бляхамі будынак займае жыллёвы аддзел гарвыканкома—установы, якая абавязана «ахоўваць», мае права прыпыняць самаўпраўства, адказныя работнікі якой уваходзяць у гарадскі і рэспубліканскі саветы Таварыства? Ды і што такое некалькі сапсаваных балконаў на фоне, скажам, знесенай старой забудовы у цэнтры Віцебска? Можна запярэчыць, што гэта — састарэлыя факты. Але ж, на жаль, хапае і новых. Хто ўзяў пад увагу думку гродзенскіх членаў Таварыства, калі знішчалі гістарычны і культурны помнік—будынак вакзала? Ці, напрыклад, такая адкрытая непавага да аматараў гісторыі, пра якую паведаміла на ўпамянутым пленуме Рэспубліканскага Савета Таварыства аховы помнікаў дырэктар віцебскага абласнога краязнаўчага музея Сулецкая. Аб'яднанне віцебскіх маладых краязнаўцаў «Сузор'е» ўласнымі сіламі ў вольны час ачысціла ад смецця, прывяло ў прыстойны выгляд руіны былой Успенскай царквы. І вось, калі яны гэта зрабілі, міліцыя з дазволу гарвыканкома... загнала туды на пастой статак бычкоў. Як растлумачыць такі здзек з добрай справы маладых людзей? Можа, каму і хочацца з дапамогай бычкоў спыніць праявы энтузіязму. Але паколькі энтузіяст верыць у перамогу розуму і праўды і не можа ад сваёй веры адмовіцца, то ён працягвае хадзіць і пісаць. І вось з году ў год атрымліваюць газеты і ўстановы сумнага зместу лісты. Толькі аўтары іх мяняюцца. Тое, што дваццаць год назад пісалі ў рэдакцыі бацькі, зараз пішуць іхнія дзеці — пра палац у Ружанах, пра неабходнасць стварэння музея ў Нясвіжы, пра ўзноўленае будаўніцтва хлявоў у Гальшанскім замку і г. д. Можа, сёння пішуць нават больш, чым раней, бо стан помнікаў архітэктуры і гісторыі за апошняе дваццацігоддзе пагоршыўся, а існаванне некаторых вісіць на валаску.

Напрыклад, сталяра з Ляхавіч Міхася Турнянскага непакоіць разбурэнне помніка архітэктуры XVIII стагоддзя — палаца ў вёсцы Грушаўка Ляхавіцкага раёна. «Сам дом яшчэ крэпкі,— піша аўтар ліста,— але абшыўка месцамі абадраная, многія дэкаратыўныя дэталі знішчаны ці зняты «аматарамі» драўніны... Уваход у галоўную залу не закрыты, вокны выбіты, адна з залаў паркетнай падлогі ператворана ў збожжасховішча. Палац мае багата каштоўнасцей мастацкіх: роспісы столі, абшыўку сцен у гатычным стылі, на дзвярах — ліштвы чырвонага дрэва з разьбой... але вінтавую літую лесвіцу разабралі і здалі на металалом... Печы — сапраўдны цуд, рознакаляровая кафля... Зберагліся на сядзібе лёднік, шпіталь, хата аканома, некаторыя гаспадарчыя пабудовы. Лепшага месца для музея ў нашым раёне не знайсці. Але стаіць занядбаны дом, рубяць мясцовыя жыхары старыя грабы і ліпы, знікае помнік. Цяжка пагадзіцца з думкай, што загіне гэтая прыгажосць, створаная амаль што тры вякі назад. Перакананы, што так не павінна быць. Я асабіста гатовы рабіць тут любую працу, гатовы аддаць усё, што ў мяне ёсць, для адраджэння гэтага помніка».

Малюнак, на жаль, характэрны. Напаўразбураных сядзіб, млыноў, мураваных будынкаў XVII — XVIII стагоддзяў у нас хапае. У архітэктурных альбомах падаюцца іх здымкі, знятыя, праўда, напрактыкаваным фатографам з такога ракурсу, што здаюцца навенькімі, поўнымі кіпучага жыцця. А даверышся здымку, прыедзеш паглядзець — і жахлівае відовішча адкрываецца вачам, «пачуцці суму, сораму і безнадзейнасці», як пісалі аршанскія рабочыя, ахопліваюць душу. Так і я падмануўся мінулым годам у Радзівілімонтах, прываблены туды выглядам палаца ў кнізе «Архітэктура Беларусі». Тое, што ўбачыў, не перадаць словамі. На рэстаўрацыю патрэ[illegible] на 250 тысяч — таму не рэ[illegible]таўрыруюць. Але і не зносяць — будынак унікальны, на ім ахоўная дошка. Яшчэ год, другі няўвагі — і ён знікне.

У 1974 годзе пры Таварыстве аховы было створана Бюро прапаганды ведаў пра помнікі гісторыі і культуры. Яно набрала пэўную вышыню—20 тысяч лекцый у год. Потым бюро скасавалі, функцыі гістарычнай прапаганды перайшлі да таварыства «Веды». І прапаганда ведаў пра помнікі зменшылася да чатырох тысяч лекцый. Чытаюцца лекцыі галоўным чынам у школе. Паколькі ў рэспубліцы недзе пад восем тысяч школ, дык лёгка падлічыць, што адна лекцыя прыпадае на дзве школы ў год. Пярвічныя арганізацыі Таварыства наогул пазбаўлены такога «абслугоўвання». Чаму было прынята рашэнне скараціць і без таго абмежаваную прапаганду ведаў пра помнікі гісторыі і культуры, цяжка зразумець. Праўда, на апошнім пленуме Таварыства гэтае пытанне ўзнімалася, але калі і як яно будзе вырашана, пакуль што ніхто не ведае.

Па-за логікай ляжаць і тыражы ўласных выданняў Таварыства. Напрыклад, цікавая брашура Л. Трэпет, Л. Івановай «Там, дзе гучалі паланезы», пра сядзібу кампазітара М. А. Агінскага ў Залессі, выдадзена тыражом 1000 экземпляраў — па адной кніжцы на кожныя дванаццаць пярвічных арганізацый ці па адным экземпляры на 2458 індывідуальных членаў Таварыства. Не трапяць да іх брашуры, пазначаныя ў плане выданняў Таварыства і ўдвая большым тыражом. Гэта тым больш дзіўна, што малатыражныя выданні прыносяць Таварыству страты. Чаму нельга выпускаць цікавыя для чытача брашуры тыражом 30 тысяч — хоць па адной-дзве кніжцы на пярвічную арганізацыю Таварыства? Не ўзнікае ў памяці хоць бы адна выстаўка праектаў рэстаўрацыі, арганізаваная Таварыствам, хоць бы адзіная акцыя, да якой Таварыства заклікала мільёны сваіх членаў.

Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры з'яўляецца па задуме арганізацый энтузіястаў. Здаецца, наспеў час стварыць формы, у якіх энтузіяст мог бы з карысцю для грамадства прыкласці свае сілы і ўмельства і перастаў бы адчуваць сябе чалавекам непажаданым, прыватнай асобай у справе зберажэння культурнай спадчыны.

**Кастусь ТАРАСАЎ.**

**У ЛУЧНАСЦІ БРАТНЯЙ**

# «Мяне заўсёды вабіць Беларусь...»

**Вядомы азербайджанскі паэт, празаік і драматург Гасан Эльсевар (Гасан Мехці аглы Фатулаеў) удзельнічаў у баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пад Полацкам быў паранены. З таго часу ён падтрымлівае цесную сувязь з нашай рэспублікай, піша аб яе людзях, сябруе з беларускімі пісьменнікамі, сочыць за іх творчасцю, прапагандуе яе ў сябе на радзіме.**

**— Гасан Мехці аглы, нам вядома, што ўпершыню на Беларусь вас прывялі франтавыя дарогі...**

— Насуперак распаўсюджанай думцы, што лёс не выбіраюць, магу прызнацца: у маладосці я выбраў яго сам. Пакінуўшы пасаду артыста Нахічэваньскага драмтэатра, я добраахвотна ў пачатку 1943 года пайшоў на фронт. 23 чэрвеня 1944 года ў складзе 75-га асобнага механізаванага разведвальнага батальёна Шостай гвардзейскай арміі мы пайшлі ў наступленне. Вызвалялі Віцебск, Полацк, іншыя гарады і вёскі Беларусі. Непадалёк ад Полацка наша разведвальная група трапіла пад ураганны абстрэл фашысцкіх мінамётаў. Я асколкам быў паранены ў галаву і страціў прытомнасць. Выратавалі мяне ад смерці беларускія партызаны — Мікалай Мікалаевіч Махнач і яго сын Іван. Неўзабаве зноў вярнуўся на фронт. Перамогу сустрэў у горадзе Фраенвальдзе камандзірам 85-міліметровай гарматы.

**— Фронт летам 1944 года імкліва пракаціўся па Беларусі, затрымлівацца падоўгу ў гарадах і вёсках не было калі. Відаць, у памяці мала што захавалася аб тых гарачых днях?**

— Так, сапраўды, гналі фашыстаў мы хутка, але ў памяці захавалася шмат што. Да таго ж, пасля Перамогі, з верасня 1945 года, мне давялося яшчэ чатыры гады працягваць тэрміновую службу на тэрыторыі Беларусі. У вёсцы Купічы Пружанскага раёна і цяпер жывуць мае добрыя знаёмыя. Асабліва блізка я пасябраваў з сям'ёй былога партызана Сямёна Васільевіча Маслоўскага, цесная дружба з якім мяне звязвае і сёння. У ліпені 1947 года я адшукаў на станцыі Негарэлае і сваіх выратавальнікаў Махначоў, пакахаў малодшую дачку Мікалая Мікалаевіча Эмілію і ў сакавіку 1949 года, дэмабілізаваўшыся, забраў яе ў Нахічэвань. Мы выхавалі з ёй двух сыноў і дзве дачкі. Як бачыце, маё прызнанне ў тым, што Беларусь стала для мяне другой радзімай, што я люблю яе, як і свой родны сонечны Азербайджан, пацвярджаецца жыццём. Я часта прыязджаю сюды, некалькі разоў выступаў па радыё і тэлебачанні рэспублікі.

**— Як вы ацэньваеце сучасны стан азербайджанска-беларускіх літаратурных сувязей?**

— Творчыя кантакты паміж нашымі літаратурамі існуюць даўно. Яшчэ ў 1936 годзе ў Мінску адбыўся вечар паэзіі Азербайджана. Даклад на ім зрабіў Алі Газім. Паэты М. Ардубады, Г. Джавід, С. Рустам, М. Мушфіг, М. Рагім, А. Грашы чыталі свае вершы, беларускія паэты П. Броўка і П. Глебка пазнаёмілі прысутных са сваімі перакладамі з азербайджанскай паэзіі. Перыёдыка тады шырока друкавала азербайджанскіх аўтараў, у тым ліку і вершы Н. Зарана, С. Вургуна. Творчыя кантакты паміж беларускімі і азербайджанскімі пісьменнікамі няўхільна развіваюцца. Непасрэдна беларускія матывы назіраюцца ў творчасці С. Вургуна (верш «Партызану Бабашу»), Алігасана Шырванлы, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, франтавыя дарогі якога ляглі па Беларусі, Нарымана Гасанзадэ (цыкл вершаў «Беларускія радкі»). Думаецца, што пісьменніцкія кантакты паміж нашымі рэспублікамі павінны набываць паслядоўнасць і сістэматычнасць, узмацняцца перакладчыцкая дзейнасць на ўзаемных пачатках. Я з задавальненнем адзначаю, што творы беларускіх пісьменнікаў — Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Танка, Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Алеся Адамовіча, Івана Навуменкі з вялікай цікавасцю чытаюцца ў Азербайджане.

**— Ці часта вы звяртаецеся да тэмы Беларусі ў сваёй творчасці?**

— З часу вайны мяне цікавіць гісторыя Беларусі, яе культура, лёсы людзей, герояў барацьбы з фашызмам. Вершы «Крэпасць бессмяротнасці», «Хатынь», «500-гадовы дуб», «У Мінску ёсць дом», «Беларусь», «Убачыў», «Край прыгажосці», апавяданне «Сэрца б'ецца заадно», п'еса «Нескароная крэпасць» напісаны на беларускім матэрыяле. Паездкі прыносяць цудоўныя сустрэчы. Напрыклад, я быў у Мінску ў канцы сакавіка, прымаў удзел у святкаванні 30-годдзя часопіса «Вясёлка», сустрэўся там з Максімам Танкам, Нілам Гілевічам. Ажывіліся творчыя кантакты з беларускімі паэтамі Юрасём Свіркам, Уладзімірам Дзюбам, Міколам Маляўкам, Казімірам Камейшам, Святланай Яўсеевай, якія даўно перакладаюць мае вершы на рускую і беларускую мовы. Вярнуўшыся ў бацькоўскі край, я набываю здольнасць чуць і бачыць жыццё беларускіх братоў. Спасцігаць яго — вялікая праца, якая патрабуе напружання духоўных сіл і часу. Я прыязджаю сюды і па сюжэты сваіх будучых твораў.

**Гутарку вёў**
**Міхась НЯХАЙ.**

**Гасан ЭЛЬСЕВАР**

## *Беларусі*

Радзіма Якуба Коласа,
Радзіма Янкі Купалы,
Люблю цябе, як матулю, я,
Спяваюць твае мне цымбалы.
Цябе бараніў, пакутную,
Я ў злую, ліхую часіну.
Агнём вайны быў апалены.
Думаў, што ў бітве загіну.
Твае вызваляў ад ворага
І гарады, і вёскі.

Мне сніліся мірныя раніцы,
Світальныя ў небе палоскі.
Край, дзе б ніколі не рваліся
Ні бомбы і ні снарады.
Каб скрозь патаналі ў квецені
Мілыя сэрцу прысады.
Каб чуўся голас гармонікаў
З кожнае вуліцы, хаты.
Каб быў твой народ няскораны
На песні і жарты багаты.
Стаю і цяпер на варце я,
Каб больш не гарэлі Хатыні.
Каб больш ты не зналася з
катамі,
Каб колер вачэй цвіў сіні.
Каб лес не шчапалі твой кулямі.
Ніхто не капаў каб акопаў.
Каб сейбіт зямельку-
карміцельку
Пад жыта ўзорваў-ускопваў.
Каб працай узвысіўся, марамі
Народ твой, душою шырокі,
Каб знаўся з касмічнымі далямі
І кратаў зіхоткія зоркі.
Радзіма Якуба Коласа,
Радзіма Янкі Купалы,
Люблю цябе, як матулю, я,
Твае мне спяваюць цымбалы.

**ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ**

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ**

# ТРЫПЦІХ ПАМЯЦІ

*Каралу Тамашчыку ішоў дваццаць другі год, калі ён у складзе так званай мабільнай славацкай дывізіі прыехаў на Палессе. Гітлераўцы хацелі скарыстаць славацкія часці для барацьбы супраць беларускіх партызан. Тамашчык адным з першых сярод славакаў перайшоў на бок народных мсціўцаў і стаў разведчыкам партызанскага атрада імя Жукава. І калі ён, будучы нядаўна ў Мінску, падарыў Саюзу пісьменнікаў Беларусі свае кнігі аб вайне «На верным шляху», «На берагах Влтавы» і «Пражскі напрамак», ягоная адданасць ваеннай тэме для нас была зразумелая.*

*Свой жа першы раман пісьменнік прысвяціў жыццю беспрытульных у буржуазнай даваеннай Чэхаславакіі, твор так і названы — «Беспрытульныя» (апублікаваны ў 1955 годзе). Піша і аб рабочых («Наватар Каліяк»).*

*Кніга «На верным шляху» належыць да жанру аўтабіяграфічнай прозы, яна — пра лёс славацкага салдата, які трапіў у час вайны на Беларусь. Дарэчы, калі я пазнаёміўся з пісьменнікам бліжэй, ён падзяліўся сваёй марай — напісаць кнігу, таксама аўтабіяграфічную, пра славака — партызанскага разведчыка на Палессі, які быў захоплены ў палон і асуджаны да смяротнай кары, пра таварышаў, з якімі давялося яму сядзець у турмах і перажыць цяжкія часіны, пра ўцёкі з турмы, ужо ў Славакіі, пра ўдзел у барацьбе супраць фашысцкай Германіі.*

*Пры фарсіраванні рэчкі Маравы ў красавіку 1945 года Карал Тамашчык быў кантужаны. У выніку ў яго пагоршыўся зрок і слых. Таму ў далёкія падарожжы ездзіць разам са сваім сябрам пісьменнікам Янам Ленчам.*

*І вось мы ўтрох сядзім у гасцініцы «Мінск». Карал Тамашчык перабірае ў памяці назвы знаёмых яму палескіх мястэчак: Хойнікі, Брагін, Нароўля, Ельск, Лельчыцы... Куды паехаць? Кожная мясціна шмат гаворыць яго сэрцу аб перажытым.*

*Выбралі Ельск.*

## МАМІЧКА

У Ельску найперш накіраваліся ў хату, дзе ў час вайны кватараваў Ян Налепка. Хату знайсці было лёгка — кожны тут ведае, дзе жыў славацкі герой, удастоены высокага звання Героя Савецкага Саюза, ды і мемарыяльная дошка на хаце гаварыла пра гэта.

Невысокая, рухавая на свае восемдзесят чатыры гады гаспадыня Еўдакія Маркіянаўна Бягляк замітусілася, забегала па хаце, каб усадзіць нас. А тады стала расказваць пра Налепку:

— Прыйшоў ён на першым годзе вайны, перад калядамі, а пайшоў праз два гады, па вясне, ужо калі снег растаў. Як прыйшоў, то адразу папрасіў у майго сына Аляксея даць яму кнігу аб Леніне. А яны ж са стараны нямецкай прыйшлі, ну як жа нам даць кнігу тую аб Леніне, як тут быць? Хлопчык кажа: «Пан, няма ў мяне кнігі, а бібліятэка раскідана ўся». А ён: «Не прынясеш!— і зараз пачынае хлопчыка жартам пад бокі.— Вось я табе як дам добра, то ты прынясеш». Ну, пабыў трохі, а там гаворыць да мяне: «Мамічка, ты знаеш Аляксандраўку? Гавораць, там ёсць партызаны». «Я не знаю»,— кажу. «Не цыгань, ты цыганіш». Па-беларуску гэта азначае — падманьваеш, а па-іхняму—цыганіш. «А ты не партызанка?» Я кажу: «Пан, каб я была партызанка, то я была б у лесе. А так жа я сяджу ў сваёй халупе». Смяецца, а тады гаворыць: «От так, мамічка, я табе спавядаюся. Ты не бойся мяне, ты толькі бойся таго славака, у каторага на каўняры, злева, тут такая будзе жалязячка — адзнака нямецкая».

— Крыж нямецкі. Яго насілі немцы, што нарадзіліся ў Славакіі і служылі ў славацкай арміі,— удакладніў Карал.— Яны часта здымалі гэтыя адзнакі, каб не пазнавалі іх.

— Вось пачала хадзіць сюды дзевачка з Аляксандраўкі, дванаццаць гадоў,—успамінае гаспадыня.— Дзіця ідзе, на пераездзе немцы дзяжурныя стаяць, пытаюць, куды яна ідзе. «Да цёткі»,— адказвае дзяўчынка. «А дзе твая цётка жыве?»— «Там і там»,— расказвае сувязная. Ідзі, значыць. А потым яны пачалі падглядваць — а куды ж яна ідзе, тая малеча. А тая малеча прыносіла ўжо ад партызанаў бумажачку. А я няграматная, я ж не знаю, што там напісана. Нагда яна прынясе, а яго няма. Яна гаворыць: «Цёця, вось гэту бумажачку схавайце, дзе ён спіць». Калі ён прыходзіць, я яму кажу пра бумажку. А ён: «А што там напісана?» Я адказваю, што няграматная. «А чаму ты няграматная?» — пытае. «Знаеце, пан, наш бацька загінуў яшчэ ў мікалаеўскую вайну, і мы засталіся сіроты, і не было нам як вучыцца, хадзілі па людзях, каб кусок хлеба зарабіць, каб пражыць. Дык я няграматная». Аднойчы кажа: «Я пайду ад вас ужо, мамічка, пайду ў партызаны». Налепка не адзін паехаў у партызаны, а з сабой многіх сваіх хлопцаў забраў. А хутка запатрабаваў да сябе яшчэ і танкіста. Танкіст гаворыць немцу, начальніку: «Пан, трэба прагнаць танк, таму што застаяўся і харашо ўжо не работае».

— Гэта быў Марцін Корбель, цяпер ён генерал,— удакладняе Тамашчык.— Было гэта незадоўга перад тым, як я прыйшоў у Санюкі.

— Танкіст выехаў і прама на Рамязы пуць трымаў. Сувязная не ўказала яму, кудою перабрацца, і ён у рэчцы рамязоўскай захрас. Бачыць, што самалёт наганяе, ён падарваў танк і сам у лес. Тады немцы Рамязы спалілі. А я пытаюся ў салдаціка, што гэта за сяло гарыць па начах, Шарыны ці Дзвіжкі? Ён выняў кніжачку з кішэні і кажа: «Рамязы». А Налепка пасля Аляксандраўкі пайшоў далей і далей, а потым сталі яны на Оўруч наступаць. Там ён і загінуў. Ён быў надпаручнік, па-нашаму то, мусіць, маёр.

— Капітан,— выказаў нехта з нас здагадку.

— Старшы лейтэнант,— паправіў Тамашчык.

— Не, мусіць, маёр,— не пагадзілася з ім бабка.

— Харошы быў чалавек Налепка?— спытаў я.

— Ад душы быў хлопец добры. У мяне пабыў трохі і кажа, што немец вайну прайграе. А я кажу яму: «Пан, як ён можа прайграць, ужо гавораць людзі, што ён за Маскву заходзіць». «Гэта,— кажа,— няма ніц, што за Маскву заходзіць, але вайну ён прайграе». Во, які быў. Калі нашы адолелі немца на Волзе, ён прыйшоў дый кажа: «Мамічка, я табе гаварыў, што немец вайну прайграе. Рускія забралі вялікае войска нямецкае, шчэ й рукавадзіцель у іх Паўлюш». Во!.. Ён мне расказаў, дык я гэта ўсё і помню, што ён мне расказваў. Ён быў хлопец добры.

— Тут многа славакаў стаяла? Любілі яны Налепку?

— Багата. Да яго многа хадзіла: і салдаты, і начальнікі. Стол быў вялікі, дык пасядуць вакол стала, гавораць...

— А немцы ў Ельску стаялі?

— Блізенька не. Жандармерыя стаяла ў цэнтры, дзе царква наша. Там і паліцаі блізка стаялі. А тут — толькі праедуць ці пройдуць па вуліцы.

— А славакаў вы баяліся?

— А чаго ж іх было баяцца. Яны як толькі прыйшлі, дык адразу: «мамічка, і мамічка, і мамічка». Ласкавыя словы ў іх былі. Усе прыгожыя, паважаныя, як адна матка нарадзіла.

Ёсць слёзы, якія мы называем слязьмі радасці. Такія слёзы я ўбачыў цяпер на вачах Карала Тамашчыка.

## ПАМЯЦЬ

Калі браць анкетна, то партызанскі шлях Карала Тамашчыка на Беларусі пачаўся ў Хойніках у 1943 годзе. Там стаяла яго вайсковая часць і там ён выйшаў на кантакты з падпольшчыкамі, якія прывялі яго ў партызаны. Абарваўся яго партызанскі шлях у 1944 годзе ля вёскі Васюкі Ельскага раёна, куды ён ішоў з заданнем агітаваць славацкіх салдат пераходзіць на бок партызан.

... Не даязджаючы некалькі кіламетраў да Васюкоў, мы спыніліся на перакрыжаванні.

— Вось якраз тут стаяла будка з вартавым, ён хадзіў і курыў, а я накіраваўся далей, да лесу, — прыгадаў Тамашчык.

Ужо ў вёсцы нехта са старажылаў, якіх сабралася багата, пачаў нам расказваць:

— Мы, хлапчукі, былі крыху далей за перакрыжаваннем, у гэты час выйшаў з лесу славак, без зброі, падышоў да нас і спытаў, хто там ёсць у будцы. Мы сказалі, што вартавы і тэлефон, каб трымаць сувязь з гарнізонам. З вамі, а то, мусіць,

## *Хатынь*

Была ты іншаю, Хатынь.
Будзіў цябе світанак. Сёння ж
Тут могілкі — куды ні кінь
Пагляд. Адно званамі звоніш.
Сто восемдзесят вёсак, два
Мільёны дзвесце трыццаць
тысяч
Тых, каго дол узяў, жарства,
І толькі памяць здольна
ўзвысіць.
І дзень, і ноч гучаць званы,
І голас іх чуваць здалёку.
Спытай: па кім гучаць яны
І ў сцюжу зімнюю, і ў спёку?
Па тых, хто праўдай жыў
заўжды
І нёс каханне праз гады.
Ні на імгненне іх надзея
Не пакідала ў чорны час.
Яны і сёння сярод нас,
Нямыя, сумныя штораз —
Што нават сэрца халадзее.
...Каваль Іосіф! Сніцца мне,
Што сонца коціцца з-за лесу.
Б'еш молатам ты па жалезу —
Жыццё, яго не спыніш, не!
Ты не каменны, а жывы,
І радуешся шэпту нівы,
Перакаваўшы баявы
Меч на стырно і плуг руплівы.

Пераклаў
У. ДЗЮБА.

## *Чалавек*

Хто сказаў,
Што вяршыні вышэй за мяне,
Хто сказаў,
Што вяршыні мудрэй за мяне?
Вы не верце!
ыло у жыцці так спрадвек —
За усіх і вышэй і мудрэй
Чалавек!
Хто у космас ляцеў,
Хто за праўду змагар? —
Чалавек і зямлі і нябёс уладар.
Вышай гор
Ён узносіць вяршыню сваю.
Аздабляе ён неба —
Не толькі зямлю.
Гэта сіла ўва мне
І ў табе, любы сын.
Ў неба сэрца няма,
А галоў — у вяршынь.
Гэта я
Зямны шар абдымаю душой,
Гэта я, Чалавек,
Млечным Шляхам прайшоў.
На зямлі
І ў вадзе сваю працу знайду,
Не падвёў я ніколі
Зямлю і ваду.
Без мяне
І жыццё новы дзень не пачне,
Нават сонца пагасне-ўпадзе
Без мяне.

## *Крэпасць бяссмерця*

Шкло, як расплаўлены
крышталь,
У дыме крэпавым блішчэла.
Праз шчыліны агонь хвастаў.
І у дамы поўз азвярэла.
Здавалася, знікае свет.
Як выжыць? — думкі хвалявалі.
Атак накатваліся хвалі
На Брэст, быў у асадзе Брэст.
...Вы паўставалі ў дыме тым
З агню,
З руінаў
І з нябыту
Паўзводна,
Нават па адным
Ў сваіх пілотках знакамітых.
Нянавісць у вачах...
Яна —
Сваёй і вытрымкі і роду!
Дзе фронту лінія?
Вайна
Расціснула усе вароты.
Рэзерваў, тылу не было —
Бой, абарона кругавая.
Ды славы вечнае святло
Успыхнула на небакраі.
Змаганне за жыццё вялі
У той шматдзённай кругаверці.
Жылі — вы смертныя былі.
Загінулі — ўвайшлі ў бяссмерце.

## *Дарогі*

Нямала бачыў я дарог на свеце:
І сонечных, і грозных,
і крутых.
Адчуў нагамі, вокам іх
прыкмеціў,
Напрошваецца вынік тут для іх;
Ёсць доўгія, шырокія, ёсць
пыльныя,
Ёсць гладкія і ёсць у камянях...
Прад імі мы, як віцязі
былінныя,
У роздуме стаім: як выбраць
шлях?
Адною пойдзеш — суджана
узвысіцца,
Другою пойдзеш — ведай,
што прапаў.
Пад кулямі быў шлях мой
сярод вісельняў.
Быў тройчы ранены і тройчы
ажываў.
Хоць адчуваю, сэрца
непакоіцца,
Ніколі не сумую у жыцці.
З народам светлаю дарогай
крочыцца.
Сам пракладаў яе.
І дзецям тутісці.

Пераклаў
Ю. СВІРКА.

---

былі вы, той славацкі вартавы штосьці пагаварыў, доўга гаварыў, і вы пайшлі ў лес, а мы зразумелі, што славакі пераходзяць на наш бок. Мы хваляваліся за вас, каб вас не раскрылі і не схапілі.

— А вы памятаеце, як прыйшлі ў вёску два танкі і машына? — пацікавіўся госць.

— Так, помнім.

— Пасля арышту мяне кінулі на гэту машыну і павезлі. Помню, на вуліцы стаялі жанчыны з дзецьмі.

— Так, так, — загаварылі жанчыны.

— Мяне арыштавалі за вёскай, дзе стаяў дуб. Давайце сходзім да таго дуба, — прапанаваў Тамашчык.

— Дубовая града ў нас ёсць, а асобнага дуба няма, — загаманілі вяскоўцы.

— Быў даўно, — удакладніў настаўнік-пенсіянер Назарчук Фёдар Паўлавіч. Ён і павёў нас за вёску.

— Вось тут дуб стаяў, яго маланка спаліла,—сказаў ён, не даходзячы да ўзлеску.

— Падобна, што тут, — пацвердзіў Тамашчык. — Помню, я выйшаў з лесу і сеў чакаць пад дубам, спіною да вёскі, славакаў. Але тут, побач, быў равок. Дзе ж ён?..

— Тут прайшла меліярацыя, — растлумачыў настаўнік.

...Ён выйшаў з лесу, узяў у рукі сасновую палючыну, зняў вайсковую гімнасцёрку — схаваў пад пахі. Чым не селянін? Яны выйшлі з вёскі. Адзін з іх таксама без гімнасцёркі — Карал не ведаў, што ў таго ў кішэні пісталет. Іх было трое. Падышлі і сталі паказваць фотакарткі. Раптам адзін схапіў Карала, але атрымаўшы здачы — галавой у падбародак, упаў і закрычаў: «Граната!» Карал выняў лімонку, толькі не паспеў зняць чаку...

— На фронце так: я маю вінтоўку і ён мае вінтоўку. А ў падпольшчыкаў ёсць праблема: верыць ці не верыць, — тлумачыць Карал гэты выпадак.

Мы пайшлі да будынка школы — там яго, арыштаванага, трымалі першую ноч. Будынак цяпер новы, добра дагледжаны. Акрамя вучняў, тут было многа жанчын з кветкамі—яны іх дарылі гасцям.

## ТРЫ МАЦІ

— У час вайны вы былі маладыя. Ці сустрэлі вы дзяўчыну, якая вам спадабалася? — пацікавіўся я.

— У мяне былі добрыя разведчыцы Вольга і Маня, яны ўмелі дазнацца, дзе стаяць славацкія часці, а затым я ішоў туды агітаваць іх пераходзіць да партызан.

— А вось каб закахацца? — не адступаюся я.

— У Васілевічах жыла на торфазаводзе дзяўчына, яе таксама звалі Вольга. Бацька яе, некалі раскулачаны, так ненавідзеў Савецкую ўладу, як я яе любіў. Ён працаваў дырэктарам торфазавода. Я пачаў агітаваць дзяўчыну ісці са мной у партызаны. Яна адказвала, што бацька пракляне яе, калі яна пойдзе ў партызаны. Спрабаваў гаварыць з бацькам. Ніякага выніку. «Яго не слухай, яго бальшавікі выхавалі»,— наказаў ён дачцэ. Я кажу яму: «Ваш сын ваюе ў Чырвонай Арміі, ён прыйдзе пераможцам». «Што!? Мой сын? — закрычаў ён і дастаў з-пад ложка, з саломы, вінтоўку і так ля мяне штыком правёў. — Я яго парашу, калі ён прыйдзе сюды як пераможца». У партызаны Вольга не пайшла. Тады ёй было васемнаццаць год. Вельмі яна падабалася мне. Пасля вайны яна апынулася ў Заходняй Германіі.

— Я маю тры маці, — працягваў гаворку Карал Тамашчык. — Першая маці — гэта тая, якая нарадзіла. Яна мне пра сваю любоў да радзімы ніколі не гаварыла, таму што бацька быў беспрацоўны, у нас хлеба не было, нічога не было. Я з шасці год, па сутнасці, батрачыў. У сорак першым годзе з цяжкасцямі скончыў школу. А як прыехаў на Палессе, то сустрэў Соф'ю Мікалаеўну Зянюк. У яе было пяцёра дзяцей. Калі я прыйшоў да яе як партызан, яна сказала: «Карал, мне нічога не шкада для сваёй радзімы». Ад яе я вучыўся любіць радзіму. І ад Вольгі Сцяпанаўны Курэнь, што жыла ў Стрэльчаве пад Хойнікамі — яна пакінула траіх дзяцей і пайшла з намі ў партызаны. Свой учынак растлумачыла так: «Карал, калі аднаго дня прыедуць немцы і захочуць спаліць сяло з людзьмі, я не змагу абараніць дзяцей, а як пайду з вамі, то буду іх абараняць». Памятаю, ноччу мы былі ў адной хаце, і яна, прыцісну́ўшыся лбом да шыбы, плакала, ціха плакала. Я спытаў яе, чым яна так узрушана, яна адказала, што ўспомніла пра сваіх дзяцей і што калі з імі што здарыцца, то яна будзе помсціць за іх.

Гэтыя беларускія жанчыны навучылі мяне любіць сваю радзіму.

У 1966 годзе я ў вялікай групе славакаў наведаў Кіеў, дзе нам сказалі, што далей мы паедзем па маршруце Кіеў — Масква — Ленінград. Мы адказалі: мы там ужо былі, а цяпер хочам ехаць туды, дзе партызанілі. Там няма гасцініцы? Будзем спаць у лесе. Там няма рэстаранаў? Бабулькі накормяць. Мы настоялі на сваім. Тады нам далі тры аўтобусы: адзін: на Капаткевічы, адзін у Ельск і адзін у Хойнікі. Калі я ў Хойніках выйшаў з аўтобуса, то адразу пачуў жаночы выкрык: «Карал! У бога я не верыла, а малілася, каб ты застаўся жывы». Гэта была Вольга Сцяпанаўна Курэнь. Ведаеце, колькі гэтая Вольга Сцяпанаўна праехала, каб убачыць нас? «Карал, я толькі на даху поезда не ехала, а на бульдозеры, на трактары ехала аж з Караганды, каб хоць дзве гадзіны паглядзець на вас». Гэта была сапраўдная партызанская дружба. Мы перапісваліся доўгі час, а вось паўтара года ўжо не атрымліваю паштовак... Што з ёй?

Калі мы ад'язджалі з Санюкоў, пасярод поля стаяла, схіліўшы галаву, жанчына, тулячы да грудзей букет кветак і сумнымі вачыма праводзіла нас. Хто яна? Чаму яна не падарыла кветкі гасцям?.. Можа, таксама мамічка, а можа, партызанская сяброўка славака. Яна так і стаяла ў чаканні і надзеі, што Ён, яе славак, яшчэ прыедзе.

---

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

Перада мною фотаздымак саракагадовай даўнасці— партрэт Валянціна Паўлавіча Таўлая. Ветлівы, адухоўлены твар, крыху задумлівы позірк. На адвароце здымка напісана: «Добраму другу па працы на ўспамін... аб тым, як разам «карпелі» ў друкарні і рэдакцыі навагрудскай газеты»...

Чытаю гэтыя радкі, а думкі пераносяць мяне ў мінулае, незабыўнае.

...Другі дзень пасля вызвалення Мінска ад гітлераўскай нечысці. Наш самалёт толькі што прызямліўся на сталічным аэрадроме. Адсюль разам з групай партыйных і савецкіх кіруючых работнікаў еду працаваць рэдактарам у толькі што пакінуты немцамі Навагрудскі раён.

Цяпер, калі я праз гады азіраюся на свой пройдзены жыццёвы шлях, то навагрудскі перыяд высвечваецца з асаблівай выразнасцю. Тады мне і пашчасціла працаваць з Валянцінам Таўлаем.

А ўзяць глыбокія па мастацкай вартасці вершы «Навагодні сон», «Кастрычніцкі салют», якія ўпершыню былі змешчаны ў нашай газеце. Ад гэтага папулярнасць і аўтарытэт газеты значна ўзраслі. Узрасла і вядомасць паэта. Споўнілася яго мара, выказаная ў адным з вершаў:

Я сам і пасядзець магу,
а вершам—часу шкода:
шумець ім трэба на сцягу
і калыхаць паходы.

Хочацца яшчэ сказаць аб адной асаблівасці, якая вылучала Валянціна сярод журналістаў. Ён ніколі не адмаўляўся ад дапамогі іншых і сам рабіў усё, каб дапамагчы другому. Ніколі не забуду той увагі Валянціна, аказанай сялянам вёскі Ваўкавічы і суседніх вёсак, якія даволі часта прыходзілі да нас у рэдакцыю за парадамі, з іншымі пытаннямі. І ці толькі гэта. Валянцін, былы падпольшчык, партызанскі разведчык, таксама аказаў немалую дапамогу

# НЕЗАБЫЎНАЕ

Мая першая сустрэча з Валянцінам застанецца ў памяці назаўсёды. Іду па Сянежыцкай вуліцы. Вось і невялічкі дамок. Заходжу ў маленькі, але ўтульны пакойчык. Глыбока кранула ветлівасць і сціпласць Валянціна. Як гэта звычайна бывае, адразу наша гаворка не мела канкрэтнай тэмы. Абмяняліся думкамі пра апошнія падзеі, што ўжо вайне хутка прыйдзе канец. Затым перайшлі да штодзённых спраў у рэдакцыі, як будзем працаваць над выпускам першага пасляваеннага нумару газеты, з чаго пачынаць.

Я і Валянцін — равеснікі. Абодва былі маладыя, жыццярадасныя, адразу знайшлі агульную мову. Спаць не хацелася, прагаварылі дапазна. Агульнасць інтарэсаў зблізіла нас. І цяпер, праз гады, калі я думаю аб гэтым бясконца дарагім чалавеку, мне балюча, што так рана абарвалася яго жыццё, на самым росквіце яго цудоўнага таленту.

Рэдакцыйныя будні былі напоўнены пастаяннымі клопатамі аб усебаковым і змястоўным асвятленні ў газеце жыцця і побыту людзей, іх намаганняў хутчэй залячыць раны вайны, аднавіць разбураную ворагам народную гаспадарку раёна. Была тады пастаўлена і другая не менш важная задача — шырока асвятляць наш, савецкі лад жыцця, пераадоленне вынікаў фашысцкай акупацыі. Валянцін Паўлавіч у падрыхтоўцы матэрыялаў да друку перадаваў свой немалы журналісцкі вопыт. Ён змяшчаў у газеце і свае творы — вершы і нарысы.

Аднойчы, неяк пад восень, крыху засядзеўшыся ў рэдакцыі пасля работы, мы абмяркоўвалі план чарговага нумару газеты. Глянуўшы на Валянціна, я заўважыў яго глыбокую задумлівасць. Перахапіўшы мой позірк, Валянцін запытаў:

— Хочаце, я пазнаёмлю вас з жанчынай з «таго свету».

Мяне здзівіў такі выраз — з «таго свету». Аднак не гумар, а сур'ёзнасць твару сябра крыху насцярожыла. А Валянцін працягваў:

— Гэта я пра Марыю Гурыну з вёскі Машчыцы Ваўкавіцкага сельсавета...

І ён расказаў пра жудасную і трагічную гісторыю людзей з названай вёскі. Загнаныя фашыстамі ў гумно, яны былі спалены жывымі, а тых, хто спрабаваў выратавацца, сустракала аўтаматная чарга. Толькі нейкім цудам Марыя выпаўзла з ахопленага полымем будынка, не была заўважана карнікамі. Нарыс аб жахлівым лёсе гэтай жанчыны ўпершыню Валянцін змясціў у нашай газеце ў канцы 1944 года. Кроў стыне ў жылах, чытаючы гэты нарыс. З такой сілай і выразнасцю паказаны факты нечуванага зверства гітлераўцаў і іх памагатых.

Крыху пазней мне давялося пабачыць Марыю Гурыну. Яе вочы ўжо не выпраменьвалі ранейшай душэўнай цеплыні, скроні пасерабрыла заўчасная сівізна. Гэта ўжо была прыбітая горам і адзінотай кабета, якая падзяліла лёс многіх жыхароў Хатыні.

органам дзяржаўнай улады ў выкрыцці здраднікаў Радзімы.

Памятаю, напярэдадні Кастрычніцкага свята кажу Валянціну:

— Што дадзім на першую паласу святочнага нумара?

— У мяне — верш. Яшчэ гарачы, як блін толькі што з патэльні, — з усмешкай на вуснах адказаў сябар. І неўзабаве ён прачытаў верш «Кастрычніцкі салют».

Закончыўся слаўны наш
паход,
Цвярдыня ворага—ў руінах.
Стары тэўтонскі шлях
на ўсход
Прыгвоздждан да пляцоў
Берліна.

З якой надзённасцю гучаць гэтыя словы! Прыслухацца б да іх тым, хто бразгае зброяй на Захадзе, марыць аб рэваншы, новай вайне.

Валянцін Паўлавіч Таўлай быў узорам самаадданасці і працаздольнасці. Здзіўляла, дзе ён знаходзіў сілы і энергію. Нягледзячы на вялікую загружанасць у рэдакцыі, ён амаль увесь свой вольны час аддаваў творчасці. Аднойчы, прыехаўшы з Навагрудка ў Мінск, я зайшоў да яго на кватэру. Заначаваў. Сябар у той час працаваў над перакладам на родную мову твораў Адама Міцкевіча. Мяне здзівіла, што Валянцін прасядзеў усю ноч, ні адной хвіліны не адпачыўшы.

Дарэчы — Валянцін Талай і Адам Міцкевіч. Паэт сучаснасці да глыбіні душы быў прыхільнікам паэзіі класіка польскай літаратуры, вялікага сына Навагрудчыны. Мне не забыць падарожжа з Валянцінам па славутых і памятных мясцінах, дзе жыў і тварыў Адам Міцкевіч: апетыя ім возера Свіцязь, Цырын, Літоўка, Навагрудскі замак — у творах «Гражына», «Дзяды»... Мы тады з болем у сэрцы не раз глядзелі на руіны мемарыяльнага музея Адама Міцкевіча, па-варварску разбуранага гітлераўцамі—нашчадкамі тэўтонскіх рыцараў. Узышоўшы на славуты курган Адама Міцкевіча, мы з захапленнем аглядалі дзівосныя ваколіцы горада, апетыя ў паэме «Гражына». Ніяк мне не забыць расказ Валянціна аб народным паданні пра гэты курган — усенародны сімвал памяці і ўшанавання паэта палякамі і беларусамі.

Вестка аб заўчаснай смерці Валянціна Таўлая, якую паведаміла мне яго жонка Лідзія Сяргееўна, балюча сціснула сэрца. Праз чатыры дзесяткі гадоў я ўглядаюся ў пажоўклыя ад часу старонкі першага зборніка твораў Валянціна, якога, на жаль, не давялося пабачыць самому аўтару.

Мне не забыць радкі верша Максіма Танка, сказаныя ім ля магілы Валянціна Таўлая:

І сёння вы, каго паэт любіў,
З кім разам жыў, у смерць
яго не верце!
Калі на час ён зmораны
спачыў, —
На варце стойце славы і
бяссмерця!

Андрэй ТРАЯНОВІЧ.
г. Стоўбцы.

---

## «ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» № 2

«Чалавек асобага складу» — артыкул М. Кузняцова пра аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партыйнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў гады Вялікай Айчыннай вайны В. І. Казлова.

Пад рубрыкай «Да 70-годдзя Вялікага Кастрычніка» змешчаны матэрыялы А. Фурыка «Служыў рэвалюцыі» (пра героя грамадзянскай вайны, удзельніка ўсталявання Савецкай улады ў Беларусі Б. Гарбачова), В. Ліхачова «Імя камбрыга Зыгіна» (пра генерал-лейтэнанта А. Зыгіна, чыім імем названа адна з вуліц у Полацку). У раздзеле «З летапісу народнай славы» — публікацыі М. Ялінскай пра 22-гадовага камісара партызанскай брыгады імя К. К. Ракасоўскага («Жыццё і подзвіг Кручкова»), А. Хацкевіча пра Казіміра Эдмундавіча і яго жонку Люцыю («Брат Ф. Э. Дзяржынскага»), Н. Цыпіса пра камсамольца - падпольшчыка Захара Гала («Зрабіў усё, што мог»).

Пра пошукі, знаходкі, даследаванні расказваюць І. Чарняўскі, І. Цішкін («Віцебская ратуша»), Р. Баравы («Невядомы помнік беларускай готыкі»).

Рубрыка «У свеце працы і красы» аб'ядноўвае матэрыял М. Бяспалай «З гісторыі народнай асветы» (пра дзейнасць Грамадства мінскіх урачоў і Грамадства прыгожых мастацтваў) і У. Кісялёва «Уздзенскі гісторыка-краязнаўчы».

